

Робінзон дома.

РАЗЬДЗЕЛ I.

## НЯ ВЫТРЫВАЎ і ЎЦЁК НА МОРА.

Я нарадзіўся ў 1632 годзе ў вангліцкім месьце Ёрку. Быў я трэцім малцам у бацькоў а мой ацец наважыў мяне вучыць за адваката. Але я не хацеў нічагусенкі іншага, як толькі быць плавальнікам (плаўбітом). Дык проці волі, на‘т проці загадаў свайго бацькі ды просьбаў матчыных і іншых прыяцелеў, я ўцёк на мора.

Мой бацька быў разумны, гаспадарлівы і шчодры чалавек. Ён гукнуў мяне аднае раніцы ў свой пакой і гукаў вельмі горача за мною аб гэтым. Ён гаманіў мне, што галечы або абнятыя сьціжадобай і гальлівыя на багацьце людзі пушчаюцца

звычаjна на прылукі. Што моj стан ёсьць станам сярэднім і ён із даўгога дазнаньня ведае, што сярэдняму стану за ўсіх наjляпеj, што супакоj і скромнасьць, здароўе, прыяцелі і ўсё жаданае дабро належа сярэдняму стану ў жыцьцю; калі я няшчасны дома, дык гэта мая собская віна. А калі-б я астаўся глухім на рады j напамінаньні ягоныя, дык буду калісь каяціся, але будзе позна.

Мяне вельмі даняла аjцоўская гутарка, калі мяне прасіў у сьлізах, што каціліся па твару ягоным, каб пачаў новае жыцьцё. Я тады сабе пастанавіў, што папраўлюся. Але бяда! За некалькі тыднеў ізноў прачхнулася мая старая туга, а калі я пазнаў, што не дастану ані благаслаўленьня на падарожжа, ані дазваленьня, дык пастанавіў, што пушчуся на мора адзін.

Я пакінуў патаjно аjца j маці, не бядуючы аб тым, што яны падумаюць, і ня просячы ў сваj-го аjца благаслаўленьня, і раненка нараніцы крануўся на караб, што меў плысьці ў Лёндон. Было гэта 1 верасьня 1651 г.

Жаднага маладога падарожніка ня стрэлі няшчасьці так борзда і ня трывалі так доўга, як мае. Караб траха яшчэ ня выплыў із прыстані, як узьняўся вялікі вецер і на мору пачалася бура. Я быў страшне хворы j зьбядаваўшыся. Усе рады j сьлёзы маjго аjца і просьбы матчыныя ўспомнеліся мне. Але, як вецер сьціх, зацьвярдзела сэрца мае і аглохла сумленьне і я ўпіўся разам із jіншымі плаўбітамі. Шостага дня прыплылі мы ў Ярмут. Тамака мусілі ляжаці некалькі дзён, бо шалела страшная бура. Собсьнік карабу, баючыся, каб чаго ня сталася, усюды даглядаў і аднойчы, калі ён выходзіў із свае каюты, пачуў я, як ён стагнаў: „Божа зьмілуjся над намі, каб усе не пагінулі!"

Бо морскія хвалі былі высокія, як горы.

Вечаром прасіў старшы плаўбіт собсьніка карабу, каб загадаў адрэзаць пярэдні стацьцявік*). Як адрэзалі, дык галоўны стацьцявік так хістаўся, што мусілі ј яго адрэзаці. Бо наш караб быў цяжка накратаны таварам і біўся аб хвалі а плаўбіты крычэлі, што ўтопімся, і мы запраўды мусілі зара спусьціць лодкі і пакінуць караб.



Чарод (груд) людзёў быў тамака, гатуючыся нам памагчы..

Зь вялізарнымі перашкодамі ј небясьпечнасьцьмі дабраліся мы да берагу. Чарада (груд) людзёў стаяла тамака і туды сюды бегала, гатуючыся нам памагчы, як толькі прыплывем бліжэј.

---

*) Жэрдзь, у версе каторај прымацаваны вялікі кавалак палатна, званы вятрылам.

Прынялі нас вельмі ласкава в магістрат места і некалькі купцоў ды собсьнікаў карабаў далі нам грошы, каб вярнуцца назад у Галь альбо ў Лёндон, як мы жадалі. Гукаў я капітану, што паехаў, каб толькі пазнаці мора, в ён глянуў на мяне вельмі сур'ёзна, сусярэдзіўшыся.

„Хто Ваша?“ папытаўся ён, „і чаго паехаў на мора?“

Я апавядаў яму крышку із свајго жыцьця в ён пры гэтым закрычэў ізь дзікој злосьцяј:

„Што я зрабіў“, гаманіў ён, „што такое шчанё магло забрацісе на мој караб? Магчыма, што ўся бяда прылучылася з намі адно з вашае віны, быццам як Ёна плыў у Тарс. Ня ўступіў-бы я ніводнај нагој із Вашэцям ізноў у свој караб— на'т за тысяча хунтаў штэрлінгаў“.

Гэтак гукаў за мною яшчэ вельмі сур'ёзна, прыпамінаючы мне, каб вярнуўся назад да ајца і не спакушаў Празору. Ён казаў: „Маладзёне, трэба, каб Ваша вярнуўся дамоў, бо будзеш мець адны няшчасьці, куды не павернесься, пакуль ня споўняцца на Вашэцю словы ајцоўскія“. Але зацьвярдзелася ізноў сэрца мае і я пајшоў пехатој у Лёндон. Ня стыдаўся я грашыці, але стыдаўся каяціся, дыкжэ стыдаўся таго, за што меў-бы пашану ў разумных людзёў.

РАЗЬДЗЕЛ II.

## У ПАЛОНЕ Ў МОРСКІХ РАЗБОЙНІКАЎ.

У Лёндоне сеў я на караб, што меў плысьці да ўзьбярэжжа Афрыкі. Маючы ў кішані грошы, не хацеў я ўжо служыць, як плаўбіт, а падарожнічаць, як пан. На параду капітанаву накупіў я рознае драбязы, якој мог-бы гандляваць паміж мясцовымі людзьмі на ўзьбярэжжу Гвінэјскім.

Добры гэты чалавек вучыў мяне ў часе плаваньня матэматыкі і морскіх правілаў. Гэтае падарожжа здалося мне і было наагул запраўды адзіным шчасным падарожжам у цэлым маім несупакойным жыцьцю. Прадаўшы свае рэчы дзікуном афрыканскім, я прывёз дамоў пяць хунтаў 90 унцыяў залатога пяску, за каторыя дастаў у Лёндоне звыш 7.000 каронаў. Гэта напоўніла мяне такімі сьцілюбымі плянамі, што я рынуўся ў поўнаю загубу.

Мој прыяцель капітан умер борзда просьле нашага павароту з падарожжа. Але я паступіў на тој-жа караб, хочучы ізноў пусьціцца ў дарогу. Капітанам быў калішні штырнік караблю. Я накупляў блізу што за паўтрацці тысячы новага тавару, каторым хацеў гандляваці ў Афрыцы, а астачу свае маемасьці каля 5 тысячаў аддаў на схоўку ўдаве свајго прыяцеля, што была справядлівая і пэўная жанчына ды прыяла мне тады і пазьнеј.

Мы сьціраваліся најпярвеј да Канарскіх астравоў. Аднојчы вельмі рана неўспадзеўкі абачылі мы, што за намі гнаўся, распусьціўшы ўсе вятрылы, турэцкі разбојніцкі караб. Мы таксама напялі ўсе вятрылы. Але бачачы, што разбојнікі нас даганяюць, мы задзержыліся ј гатаваліся да бітвы. Наш караб меў дванаццаць гарматаў, але јіхні караб меў асьмінаццаць. Каля трох гадзінаў па паўдні падплыў разбојніцкі караб да нас на выстрал. Мы выпалілі ў бок яго адзінаццаць разоў. Але яны адказалі на нашае страляньне а із стрэльбаў у јіх аказалася страляніна бы дзьвесьце чалавекаў. Потым прыплылі да нашага карабу і рынуліся на палубу шэсьцьдзесят чалавекаў, каторыя зараз пачалі сячы ј пераразаць канаты ј вятрылы. Двојчы мы загналі јіх із палубы, але напасьледак яны нас такі перамаглі. Разбојнікі забралі нас і павязьлі ў няволю.

Завязьлі нас у мароцкую прыстань Салег. Адгэнуль усіх, апрача мяне, пагналі ў сярэдзіну краю і сталіся яны нявольнікамі мароцкага султана. Але мяне пакінуў капітан сабе, як сваю здабычу, а дзеля таго што я быў малады і вёрткі, зрабіў із мяне свајго слугу. Я даглядаў садок ягоны і памагаў у гаспадарцы. Як толькі ён прыходзіў дамоў, дык заўсёды пасылаў мяне на свој караб у прыстань, каб вартаваў караб. Я спаў там у каюце.



Пагналі ў сярэдзіну краю і сталіся нявольнікамі мароцкага султана.

Там адзінај думкаю мајој было, як-бы ўцячы. Але бяда: я быў адзін-адзінюсенькі. Праз два гады ня было жаднае надзеі, што я змагу ўжыцьцёвіці свој плян.

Раз астаўся разбојнік дома даўжэј як звычајна, бо трэ' было паправіці караб. Каб барждҗэј праходзіў час, ён выяжджаў раз або двојчы ў тыдзень на мора ў лодцы з двума вятрыламі, катораја прапушчала заўсёды ягоны караб, і лавіў рыбу. Браў ён мяне із сабою і маладога нэгру, каб мы веславалі ј весялілі яго. З часам ён здаваўся на мяне балеј і пасылаў мяне напару з маладым нэграм і адным малцам із свае радні. Аднага дня зьнячэўку захапіла нас бура, спабыліся мы стацьцявіка і за малым ня былі загнаты ў мора. Капітан баючыся, каб калі часам не спабыўся свае лодкі, выцягнуў даўгую лодку з англіцкага карабу, на каторым нас захапіў, і дару чыў цесьлю, каб у ёј паставіў малую будку, як бывае на вялікіх лодках, так, каб ззаду было даволі месца штырніку, а наперадзе, каб маглі адзін або два чалавекі стаяці ј кіраваці вятрыламі. Будка была такая вялікая, што мог у ёј капітан спаць з адным або двума слугамі, быў там таксама стол і ўсялякая ежына ј прылады.

На гэтај лодцы часта капітан выяжджаў лавіці рыбу. Я вельмі навытырыўся кіраваці лодкаю. Аднаго дня капітан мне загадаў нанесьці на лодку шмат яды, тры стрэльбы, пораху ј шроту, бо ён пазваў, кажа, двух ці трох выдатных Маўраў, каб у яго пагасьцілі, паехаўшых зь јім у малое падарожжа па мору. Увечары перад гэтым загадаў мне выехаць на лодцы, каб зь яшчэ адным мужчынам і ягоным малцам-сваяком налавіў крыху рыбы.

І прыјшоў мне ўдум ізноў мој плян—уцячы. Як капітан адыјшоўся да свајіх гасьцёў, я гатаваўся не лавіць рыбу, але ў далёкую дарогу. Хоць я ј ня ўмеў кіраваці лодкаю, але адзінај мајој думкаю было—уцячы адтуль.

Я гукнуў чалавека, што нас меў прапушчаці,

і сказаў яму, каб занёс яды ј вады на лодку, бо мы ня будзем мець права есьці з таго, што зловім свајму пану ј гасьцём ягоным. Потым я занёс на лодку ўсяго, чаго было трэба на заўтрашняе плаваньне, галоўна судзіну з хмельнымі напіткамі, вялікі плястар пшчалінага мёду, вяроўкі ј ніты, сякія-такія прылады ды ўзяў яшчэ даволі пораху ј набояў. Гэтак, запасшыся ўсім патрэбным, я выплыў із прыстані на мора.

Калі мы якісь час лавілі, а нічога не злавілі, бо як толькі я чуў, што рыба бярэ, ня выцягаваў вуды з вады, сказаў я нэгру, што мусім паплыць далеј у мора, бо гэтак нічога ня зловім. Не спадзяючыся нічога благога, ён згадзіўся. Як мы былі ладне ад берагу, я даў малцу руль, а сам пајшоў наперад, дзе быў нэгра. Прыкідуючыся, быццам каля яго спатыкнуўся, я зьнячэўку схапіў яго ў пол і сьсінуў у мора. Ён зара вынырнуў на зьверх вады, бо быў добры плавун, і прасіўся, каб я пусьціў яго назад у лодку. Але ня можна было яму верыць, і я скочыў у будку і схапіўшы адну стрэльбу, злажыўся і сказаў: „Ты ўмееш даволі добра плаваці, каб выплыць на бераг, а мора цяпер супакојнае. Калі падплывеш да лодкі, стрэлю табе проста ў лоб, бо я пастанавіў вызваліцца зь няволі“.

Ён тады павярнуўся ј паплыў да берагу а я не сумляваўся, што ня ўтопіцца ј выберацца на бераг, бо ён быў закатны плавун.

Потым я зьвярнуўся да малца і сказаў яму, як мы былі далёка ад берагу: „Ксуры, калі будзеш мне верным, учыню цябе слаўным чалавекам, але, калі ня вытнесься ў ваблічча і не абяцуеш мне вернасьць — гэта знача прысягаці вернасьць пры Махамэду ј барадзе бацькаўскај—сьсіну цябе таксама ў мора“. Малец сьміяўся мне і гукаў так нявіньне,

што я ня мог яго пакрыўдзіць; ён прысягаў, што будзе верным і што пойдзе за мной, куды толькі я захачу.

Як толькі сьцямнела, ■ зьмяніў кірунак свајго плыцьця і пакіраваўся проста на пэўдня. Быў сьвежы, мерны ветрык і супакојнае мора. Плаваньне мне шчасьціла так, што ў тры гадзіны па палудні я быў сто пяцьдзесят мілеў на паўдня ад Салегу. У гэтых мясцовасьцех ужо даўно скончылася панаваньне мароцкага султана ■ так сама ј суседніх каралёў, бо нідзе мы не пабачылі на ўзьбярэжжу людзёў.

Вечар сустрэлі мы недалёка ўзьбярэжжа, але я не адважыўся выјсьці на бераг, бо чуваць быў страшны рык дзікіх зьвярат. Але назаўтрае мы мусілі выјсьці на бераг, бо ня было сьвежае вады. Ксуры казаў, што возьме жбан і пойдзе.

„Нападуць на мяне дзікуны“, кажа, „зьядуць мяне, а вы паплывіце далеј“.

„Добра, Ксуры“, казаў я, „мы пойдзем абодва. А калі прыйдуць дзікуны, заб'ем іх і нікога з нас яны ня змогуць зьесьці“.

Але прысталі мы зусім супакојне ј бясьпечне, налілі жбаны сьцюдзёнаје вады з малое крынічкі і абодва бясьпечне вярнуліся на лодку, ня згледзіўшы ані воднага дзікуна.

Потым плылі мы далеј на паўдня дзесяць або дванаццаць дзён, а калі я думаў, што ўжэ нямаш небясьпечнасьці пагону, мы јзноў задзержыліся. Я думаў, што мы блізка ракі Сэнэгалю і што пашчасьце нам сустрэцца тут із англіцкімі карабамі, каторыя маглі-б нас узяць на палубу. Бо ежыны ў нас вельмі меншала і нам пагражала загуба, калі ня сустрэнемся зь якімсь карабам.

Я сядзеў вельмі задумаўшыся ў свајој будцы, Ксуры быў ля руля. Раптам ён крыкнуў:

„Спадару, спадару, караб ізь вятрыламі!“

Я выскачыў із будкі і ўгледзіў, што гэта быў запраўдны караб а пајменна — партугальскі, каторы, відаць, плыў да ўзьбярэжжа Гвінэјскага. Я ськіраваўся да яго, пастанавіўшы зь јім паразумецца. Мяне, відаць, абачылі свајімі далеказорамі і спусьцілі вятрыла, каб я мог јіх дагнаці.

Капітан і людзі ягоныя прынялі мяне вельмі хораша і пыталіся ў мяне, хто я. Пыталіся ў мяне папартугальску і пагішпанску і пафранцуску, але я нічога ня цеміў. Але, напасьледак, прыјшоў адзін плаўбіт шкоцкі і прагукаў да мяне, і я яму сказаў, што я Англіец і што ўцёк із няволі маўрскај із Салегу. Просьле гэтага ён мне сказаў, каб я з Ксурым ішоў за јім і свае рэчы ўзяў із сабою.

РАЗЪДЗЕЛ III

## ВЫКІНЕНЫ НА ПУСТЫ ВОСТРАЎ.

Капітан партугальскі абходзіўся за мној вельмі добра і, завёзшы мяне ў Бразылю, не хацеў за гэта нічога ўзяць. Навет наадварот, запрапанаваў мне, што купе маю лодку за восемдзесят дублёнаў*) а мајго чорнага малца Ксуры за 60. Мне не хацелася прадаваць малцавае свабоды, асабліва, калі ён мне служыў так верне і ўсё мне рабіў. Але як капітан абяцаў выдаць паперу, што дасьць яму волю за дзесяць год, калі прыјме хрысьцянства, і калі Ксуры казаў, што проці гэтага нічога ня меў-бы, я пакінуў яго капітану. Але пасьля вельмі шкадаваўся, што прадаў гэтага добрага малца.

*) дублён—гішпанская монэта спачатку роўная 16 далярам, цяпер ня ўжываецца.

Мы мелі супакојнае падарожжа ў Бразылю. Я асеў тамака на некалькі год. Стаўся сябруком собсьніка плянтацаў цукровых і забагацеў. Гэтак я лучыў да гэнага сярэдняга стану жыцьця, каторы мој бацька мне раіў. Быў там, дзе быў-бы, каб астаўся дома, але не нацярпеўся-б гэтулькі, як нацярпеўся адгэнуль, калі ў пяршыню ўзыјшоў на караб, ажно пакуль вызваліўся зь няволі мароцкај. Пісаў сваёј прыяцелцы, удаве англіцкага капітана, і прасіў яе, каб мне паслала палавіцу маіх грошы, што ў яе меў на схоўцы. Казаў, каб паслала грошы ў Лісабон, а адтуль прывёз мне іх партугальскі капітан у наступное падарожжа ў Бразылю. Грошы я спатрэбіў ізь вялікај карысьцяј: купіў яшчэ балеј зямлі і заклаў тамака плянтацу на табаку ј на цукір.

А цяперака, як пабольшала мая маемасьць і багацьце, галава мая закруцілася ад плянаў і новых прадпрыемстваў ды таковых, што часта бываюць згубаю ј најдазнанејшых галоў купецкіх. Як калісь разыјшоўся я із сваіімі бацькамі, так ня быў здаволены цяперака. Забываючыся аб сваіх штадзенных павіннасьцех, я хадзіў із галавою поўнај думкаў аб тым, як барждзэј забагацеці, барждзэј чымся гэта было магчыма.

У Бразылі я жыў чатыры гады, пазнаёміўся із шмат якімі собсьнікамі плянтацаў і купцамі ў Сан Сальвадору, дзе была нашая прыстань. Часта я ім апавядаў аб сваіх двух падарожжах да ўзьбярэжжа Гвінэјскага і як было тамака лёгка гандляваці драбязој, як шкляныя пэрлачкі, нажы, кавалкі шкла і пад., а за іх льга дастаць залаты пясок, сланёвую косьць і да гэт. пад. і, што најважнеј, чорных нявольнікаў, каторых можна было-б добра ўжыці ў Бразылі нат у неабмежанај лічбе.

Мае суседзі слухалі заўсёды вельмі ўважне,

асабліва як јім апавядаў аб нявольніках. Бо ў тыј час надта мала нявольнікаў прадавалі ў Бразылі, і яны былі вельмі дарагія. Дык аднаго дню некаторыя з купцоў і собсьнікаў плянтацаў прыјшлі да мяне і сказалі пад сакрэтам, што паслалі-б караб у Гвінэю, калі-б я быў на јім даглядчікам тавару, прадаў яго і купіў новы. Што ў Бразылю прывезьлі-б мноства нявольнікаў, каторых-бы падзялілі між собку. Бо ўсім нам былі вельмі патрэбныя работнікі на плянтацы.

Гэтая прапазыцыя паўстала напэўна на маю згубу. Як толькі яна мне была ўчынена, я ня мог ад яе адчапіціся. Я ня ўспомнеў добрых радаў. што мне калісь даваў бацька, і зрабіў пісьменную ўмову з палавічнікам нашых плянтацаў і зь некалькіма суседзьмі, што будуць даглядаць мае плянтацы, пакуль буду вонках. Было гэта ў тыј самы дзень, як я колькі год назад адыјшоў ад свајіх бацькоў, супрацівіўшыся јіхняј волі, і пашкодзіў сам сабе.

Мы плылі пры вельмі добрым ветры. Але было вельмі горача. Траха дванаццаць дзён плывучы ўсё на паўночны ўсход, мы пераплылі роўнік (экватор). А тады страшная бура ўзьнялася на мору. Цэлых дванаццаць дзён мы не маглі нічагусенькі јіншага рабіці, як згадзіціся, каб нас кідалі хвалі і гнаў віхор, куды яму хацелася. Адзін із нашых людзёў умер ад гаручкі, а адзін мужчына ј малец былі змытыя хвалямі ў мора.

Дванаццатага дню капітан стараўся даведацца, дзе мы прыблізна былі. Ён знајшоў, што мы ёсьцека, мусіць, на адзінаццатым градусе паўночнаје шырыні, аднак ня блізка Афрыкі, але кіненыя назад да паўночнага краю Бразылі, знаць блізка ўтоку ракі Орынока. Караб быў пашкоджаны, і цякла вада. Мы пастанавілі, што будзем плысьці

на захад і прыстанем тамака на некаторым із англіцкіх астравоў.

Але ледзь зьмянілі кірунак, як другая бура захапіла нас і пагнала далёка на захад, так далёка, што мы былі вонках прастору гандлёвых зносінаў. Мы пазналі, што калі нам і ўдасца выбрацца з мора, дык станемся здабычаj дзікуноў.



Нас кідалі хвалі і гнаў віхор. .

У часе гэтых страхаў адзін із нашых людзёў, рана нараніцы крыкнуў: „Зямля, зямля!“ Вецер веяў вельмі крэпка і, як маланкаj, гнаў караб, не маглі мы навет пасьпець выjсьці з каютаў, каб парадавацца з тужліва чаканае зямлі. Тутка неўспадзеўкі караб моцна выцяўся, іспод ягоны затрашчэў, вялікія хвалі пераваліліся з такою сілаю перазь яго, што мы кожную часіну чакалі, што

ўтопімся. Мы ня мелі найменшага паняцьця, дзе мы. Ці мы ля вострава, ці на сушы і ці заселеная яна?

Капітан загадаў плаўбітом, каб спусьцілі лодку. Мы ўсе селі ў лодку, здаліся на волю Боскаю і спусьціліся на ласку разьюшанага мора. Было нас адзінанцацёх.

Мы цяжка ходаліся сваімі вёсламі а яшчэ цяжшае было нашае сэрца. Быццам мы йшлі на кару сьмерцяй. Як праплылі каля паўтары мілі, вялізарная, як гара, хваля навалілася на нас і, пакуль мы маглі ўспомнець Бога, перакуліла лодку, і мы як га былі ў вадзе.

Ніхто не патрапе апісаць, што я чуў, як тапіўся ў вадзе. Я ня мог апамятавацца, ня мог набраці паветра, як другая хваля мяне схапіла, і як мяч, пусьціла да берагу. Я ляжаў замлелы, палумертвы. Пакуль пасьпеў ачуціцца, прыйшла новая хваля і парвала мяне ізноў назад прыблізна на 10 мэтраў ад берагу. Я хацеў затаіць дух датуль, пакуль-бы ізноў не вярнуўся назад, як раптам пачуў, што я над вадою. Я стараўся доляцца з хвалямі і здалося мне, што я нагамі дакрануўся да нечага цьвярдога. Ізноў мяне затапіла хваля, ізноў я стараўся ўсьцерагчыся і ізноў ашчупаў пад сабою дно. Гэтак было некалькі разоў, аж пакуль я выбіўся з хвалеў і дапяў сушы. Я ўзьлез на скалу на беразе, сеў тамака і ўздыхнуў глыбака. Я быў вонках небясьпечнасьці.

Маёй першай думкаю было горача падзякаваць Богу за захоў. Нельга выказаці пачуцьця, калі чалавек выратаваўся, а як я, блізу што звольнены з магілы. Я хадзіў часіну па беразе, пацягуючыся, выпрастовуючы руццэ і робячы тысяча розных рухаў, каторых не магу на'т апісаці. Я зьвярнуў вочы на разьбіты караб і прагукаў:

„Божа, як гэта было магчыма, што я лучыў на бераг?"

Аб сваіх сяброх я нічагусенькі ня ведаў, ня было па іх навет памяткі. Толькі тры капялюшы і адна шапка падскакавалі па хвалях.



Выбіўшыся з вады, Робінзон лезе на скалу.

Я пачаў азірацца наўкола. Што гэта была за мясцовасьць, дзе я апынуўся? Борзда жуда ахапіла маё сэрца. Я астаўся жывы, тэта праўда; але тут была страшная адзінота. Я быў мокры, ня меў сухое ніты на сабе, ня меў чаго ў рот уланыць, навет ня было каплі вады выпіць. Ня было жаднае надзеі, думаў, што памру з голаду або разарвуць дзікія зьвяраты. Я ня маў жаднага аружжа, каб бараніціся, або каб мог забіці зьвяро

сабе на яду. Ад гэтага мяне абыјмаў страшны жах і я бегаў па беразе, як шалёны. Але ноч сьхілалася нада мною і, баючыся дзікіх зьвяроў, каторых мог стацца безбароннај здабычаю, я пастанавіў, што залезу ў гушчар. Было тут густое дзярэўе, як хвоји. Хацеў так сядзець усю ноч і думаць, якој сьмерцяј скончу заўтрашні дзень. Знајшоў я там малое жаралцо сьвежае вады, а потым узьлез на дзерава, сеў так, каб ня мог зваліціся, і вельмі борзда заснуў. Нараніцы, прачхнуўшыся, я чуўся шмат здароўшым, чымся мог учора падумаці. Караб быў яшчэ на зьверху вады і хвалі прыгналі яго блізка да берагу. Прыјшло мне ўдум, што калі-б мог я дабраціся да яго, дык мог-бы што колечы зь яго ўратаваць, што мне вельмі згадзілася-б.

Зараз па палудні мора зусім уцішылася. Быў адліў, я бачыў ізноў караб і разважыў, што цяпераказа адліву будзе да яго ўсяго чэцьверць мілі. Я пастанавіў пераплысьці да яго.

Адважна кінуўся ў ваду і пераплыў да карабу. Схапіўшыся тамака за кавалак канату, я ўзьлез на верх на палубу.

Было там усюды шмат вады. Але, ня гледзячы на гэта, караб быў у добрым стане. Калі-б мы ўчора на јім усе асталіся, дык маглі-б быць жывымі. Сабака ј два каты былі адзінымі жывучымі стварэньнямі на јім. Запасы еміны былі зусім сухія і я сабе прыгатаваў добры абед ізь некалькі сухароў і рому, што тамака знајшоў. Потым узяўся за работу, рабіў з усяе сілы, зьбіў плыт ізь некалькіх вырваных дашчок і калодаў. На плыт паставіў тры плаўбіцкія куфры і напоўніў јіх хлебам, рыжам, сушоным казіным мясам і галяндзкім сырам, некалькімі штукамі адзежы, некаторымі прыладамі, аружжам і набоямі. Дык

мој плыт быў вельмі цяжкі. Я пачаў сумлявацца, ці ўдасца мне даплысьці зь ім да берагу, бо я ня маў ані канату, ані вясла, ані руля.

Але цяперака пачаўся прыбој, мора было супакојнае і вецер упіраўся ў ваду. Зь вялікім стараньням і зь вялікај асьцярожнасьцяј я кіраваў плыт, на колькі мог, аж пакуль ня прыплыў у малую затоту.

Было там ля берагу затокі крышку плыткага месца. Я прыплыў із свајім плытом блізка да яго і чакаў, пакуль падыјмецца прыліў і зальле сухую зямлю. Тады із свајім плытом узьехаў на яе.

Я выбраў сабе месца, дзе-бы мог у бясьпечнасьці пераспаці ноч. Абставіў яго наўкола судзінамі ј скрынямі і гэтак зладзіў сабе якуюсь хібарку. Узыјшоў потым на верх најбліжшага ўзгорку, каб разгледзіць востраў. Із вялікім смуткам я пабачыў, што быў запраўды на востраве і, відаць, на востраве незаселеным, бо, апрача птушак і дзікіх зьвяроў, ня было нічагусенкі відаць.

Назаўтрае паплыў я ўзноў на караб. Узьлез на палубу і зрабіў сабе накшы плыт, шмат лягчэјшы за першы. На яго накратаў шмат гваздоў і јіншых патрэбных рэчаў із цесельскага складу, крыху пораху, розных стрэльбаў, некалькі шратаўніцаў і дзьве судзіны набоеў і адзежы, што толькі мог знајсьці, а таксама вяроўкі, вятрылы, канаты і г. д., і некалькі пярынаў. Усё гэта бясьпечне прывёз у затоку. Гэтак я плаваў адзінанцаць дзён на караб і прывёз на свој востраў траха ўсё, што было на палубе. А калі-б пастаяла пагода, напэўна мог-бы прывезьці цэлы караб кавалак за кавалкам. Я маў цяперака вялікі склад усялякіх рэчаў, якія чалавек калі-колечы сабе назьбіраў. Апрача шмат якіх јіншых рэчаў, я меў дзьве ці тры брытвы, ножніцы і дзесяць ці двананцаць нажоў і вілцаў.

Я знајшоў навет у вадным прыстолку малы скарб, каля трыццацёх хунтаў. Я засьміяўся, як на іх лучыў: „Ох грошы! На што мне яны? Адзін нож цяпер балеј варты за ўсе грошы. Ня ведаю, на што вас упатрэбіць — аставајцеся тутака, аж на дне, як рэч, каторую ня варта ратаваць".

Але зараз прыјшло мне ўдум, што аднак варта было-б іх захаваць. Я адарваў кавалак вятрыла, завярцеў грошы і ўзяў із сабою. Гэтак шмат год аставаліся грошы гэныя на маім востраве нечапаныя, ажно пакуль, напасьледак, ня прыјшоў на іх час.

Аднаго дня нахмурэла. Нягледзячы на гэта, паплыў я ізноў на свој караб. Але ледзь я ўзьлез на палубу, узьняўся вецер, на мору зьявіліся хвалькі, дык, пакінуўшы ўсё, я борзда ўскочыў ізноў у ваду і параплыў на свој востраў. Узьнялася вялікая навальніца і бушавала ўсю ноч. Як нараніцы я зь берагу паглядзеў на мора, вачыма шукаючы караб, яго ўжо нідзе ня было.

РАЗЬДЗЕЛ IV.

## МАЯ СЯЛІБА.

Цяпер прыјшла пара падумаць, дзе закласьці сабе сялібу. Наўперад трэ' было выбраць здаровае месца із сьвежај пітној вадој пад рукамі. Другое, трэ' было, каб сяліба не ляжала на сонечным вару а мела якісь прыродны прыстрэшак. Трэјцяе, каб было бясьпечна ад дзікіх людзёў і зьвярат. Чацьвертае, неабходна, каб было адтуль відаць на мора і калі-б Бог паслаў некалі караб, каб я мог вярнуціся на свабоду.

Я знајшоў лапіну роўнага месца ля высокае скалы, каторај сьцяна была стацьцявая, так што

з гэтага боку ніхто на мяне на мог напасьці. У сьцяне скалы ля зямлі была дзіра, бы пячура. Я наважыў ля яе паставіць свој будан а перад буданом адмерыў наўкола каля 20 ярдаў*) у дыямэтры. Угэтым паўколе я ўбіў два сьцягі таўстых камлёў, так што яны стаялі моцна, як сьцяна. Яны былі ўвышкі каля 5 з паловај ступнеў**) на канцы я јіх завастрыў. Паміж гэтымі двума радамі была толькі шэсьць палцаў***) прастору.

Прастор паміж дзеравамі я заплёў таўстымі канатамі і зрабіў падпоркі з боку. Загарадзь была такая густая, што перазь яе ня мог-бы прајсьці ані чалавек, ані зьвяро. Гэтую загарадзь я рабіў некалькі тыднеў. Дзьвярэј да загарадзі не зрабіў, але пералазіў пры помачы драбінкі, каторую заўсёды выцягаваў за сабој.

У гэтую загарадку я зацягнуў усё свае багацьце. На гэта трэ' было вялізарнај працы. Над загарадкај я напяў падвојны стан а зьверху прыкрыў яго вялікім дзягцяваным вятрылам, што прывёз із карабу. Потым, каб меці балеј месца, я пачаў капаць у скале. Скала ня была цьвярдая, і я выглыбіў у ёј склеп, каторы назваў варыстај хатаю.

Каб не забыцца, які дзень у тыдню і каторы ў месяцу, я ўбіў у зямлю вялікі кол на ўзьбярэжжу, дзе першы раз выплыў із мора. На кале выразаў гэтыя словы: „Выплыў гэтта на ўзьбярэжжу 30 верасьня 1659 г."— Кожны дзень я рабіў новы зарэз а кожны сёмы дзень рабіў зарэз

---

*) ярд — англіцкая мера даўжыні, роўна 91,44 цэнтымэтрам.
**) англ. мера, 3 ступні — 1 ярду
***) англ. мера даўжыні, палец — цалі. Адзін ярд мае 36 палцаў.

сем разоў вялікшы. Так я значыў дні і тыдні, гэта быў мој калябндар.

Хоць шмат рэчаў із карабу я ўратаваў і сабе нацягаў, але патрабаваў яшчэ шмат чаго: чэрні*), зелезьняка, сякеры, лапаты, голак і ценкіх нітак. Я меў ручную сякерку, але я патрабаваў бярвеньня і трэ' было сьсячы дзерава і наабапал яго абчасаці, каб было простае і даволі ценкае. Пасьля даўгое працы ўдалося мне, напасьледак, змајстраваць стол, услоны і некалькі паліцаў, каторыя я прыбіў да сьценаў. На паліцах палажыў розныя свае прылады.



Робінзон выходзіў із стрэльбај на ўловы.

*) чарніла, атрамэнту.

Увесь гэты час я выходзіў такжа із стрэльбај на ўловы, застрэліў некалькі дзікіх птушак ды некалькі козаў і трусоў. Забіў таксама некалькі белых дзікіх катоў дзеля јіх касматај скуры. Што я ні застрэліў, ад усяго хаваў сабе касмаціну (касматую скуру), ці гэта было мяса ядомае ці не. Аднаго дня я падстрэліў у нагу казьлянё, прынёс яго дамоў, абвязаў яму ножку і даглядаў яго. За кароткі час яно асвојілася так што ела ў мяне з рук.

І прыјшло мне ўдум, што я мог-бы злавіць некалькі казьлянят жывых, каб гадаваць јіх у загарадцы і мець јіх ладнае стада, каб былі на мяса а я ня мусіў заўсёды выходзіць на ўловы, як патрабаваў еміны. Гэтак і зрабіў.

Аднаго дня, пакуль не настала дажджавая пара, я глядзеў якога мяха, у каторы-бы мог усыпаць крыху пораху. Аднојчы па буры, як пярун стрэліў недалёка ад мае скалы, я падзяліў увесь порах на некалькі меншых часткаў, схаваў яго па розных мясцох, каб прыпадкам ад маланкі або ад якое јіншае прычыны порах увесь ня выбухнуў. Я знајшоў мех, а ў јім было крыху ячменю, каторым кармілі кураняты. Але бацукі на карабе дабраліся да яго і ў мяху не асталося нічагусенькі, апрача мякіны. Я высыпаў яе ля дзьвярэј пад скалу і забыўся аб гэтым.

Настала пара дажджу, я быў некалькі тыднеў як арыштаваны дома; калі, напасьледак, я ізноў выјшаў на двор, зглядзіў, што із зямлі расьцў штось зялёнае. Крыху пасьлеј на вялікае сваё дзіва я пабачыў, што тут вырасла дзесяць або дванаццаць каласоў збожжа — праўдзівага зялёнага англіцкага ячменю!

Я схаваў уважна гэныя каласы, пасеяў потым ізноў усе зярняты зь јіх, ажно, напасьледак, дапяў

таго, што даволі зьбіраў ячменю кожны год; але толькі як быў ужэ цэлыя чатыры гады на востраве, адважыўся з гэнага збожжа прыгатаваці хлеб. Ах, якім ласонікам была мне луста гэнкага запраўднага хлеба!

Але не хачу забягаці наперад. За дажджоў у чэрвіні мяне аднојчы схапіла вялікая дрыготка а ў наступныя дні вельмі я заняўздолеў на трасцу з палам і болям у галаве. Я быў траха да сьмерці напалоханы думкаю, што за мнoј станецца—у хваробе, калі нікагусенькі ня было, хто-б мне мог памагчы. Упяршыню адгэнуль, як я ўцёк із дому ў Ёркшэру, маліўся я Богу, але думкі мае былі так памяшаныя, што я ледзь ведаў, што казаў. Гэтак было па некалькі дзён; я ня меў жаднае ежыны, а піў адну ваду; напасьледак, гарячка зьменшала і варочалася толькі кожны другі дзень. Але я быў такі нядужы, што ледзь толькі мог у дні, калі мне было добра, выјсьці на двор із стрэльбаю і ўпаляваць сабе крышку на емя.

Аднаго дня, як трасца была вялікая, што я зусім ня ўстаў з ложка, мне прысьніўся сон. Сьнілася, што сяджу вонках загарадкі, а раптам зь вялікае чорнае хмары ў харошым агнявым зьзяньню спусьціўся чалавек; як ступіў на зямлю, затрэслася тая як пры землятрасеньню. Потым падняў вялікі меч, што дзяржаў у руццэ, паказаў јім на мяне і сказаў голасам страшнејшым над усё, што колечы я калі мог-бы выказаць: „Бачу, што нічагусенькі з усяго гэтага не патрапіла цябе дагэтуль прывесьці да каяты, дзеля гэтага цяпер памрэш!“

Не магу апісаці жаху, што ахапіў маю душу пры гэтај жахліваj зьяве. Але я ня меў рэлігіјнага пазнаньня. Добрая навука ајцоўская шчэзла за

асьмі год лядашчага жыцьця плаўбіцкага і заўсёднага таварыства зь людзьмі, што былі аднолькава, як я, запсаваныя. Цяпер, як цела аслабла, пачало будзіцца сумленьне. Я прыпомнеў сабе, што сказаў мне мој бацька, што калі ўчыню гэны нягодны крок, ня буду меці жаднага Божага багаслаўленьня. І збрыдзіў я сам сябе і сваю запсаванасьць і крыкнуў я: „Божа, памажы мне, я вельмі баюся!“ Гэта была мая першая запраўдная малітва за толькі год. Зараз пајшоў да скрыні, каб памачыць крышку табакі ў роме, бо я ўспомнеў, што Бразылцы ўжываюць гэтага лякарства траха ад усіх свајіх хваробаў. Там паміж свајімі кнігамі згледзіў я біблію. Адчыніў яе і першыя словы абачаныя былі: „Гукај мяне ў часе суджэньня, а я цябе вырву і ты будзеш мяне ўзьвялічаці“. Я ўклякнуў і маліўся Богу, каб споўніў мне гэтае сваё абяцаньне, а потым выпіў ром і лёг. Ром вельмі аддаваў табакај, што я ледзь яго праглынуў, але борзда напітак выцяў у мазгі і я заснуў. Я прачхнуўся ажно тады, як мне паводле сонца здалося, што ўжо тры гадзіне адпалудня, — на‘т балеј, дагэтуль думаю, што я спаў увесь наступны дзень і ўсю ноч, а потым яшчэ ажно да трох гадзінаў адпалудня, бо выявілася потым, што я ў свајім ліку абмыліўся на пару і ніколі ня мог далічыцца як.

Прачхнуўшыся, ■ чуўся надзвычајне асьвежаным, шустрым і вясёлым; я быў і дужшы, як ранеј, і меў вялікую ахвоту да яды, і трасца назаўтрае не вярнулася. Я ачуняў, але ўсяе свае сілы не нажыў на‘т за некалькі тыднеў. Я часта чытаў біблію, маліўся і раздумаваў слова Божае. Захаваў сабе гэтае прызвычаеньне а з часам дајшоў да таго, што зусім верыў у Божае міласэрдзе і пазнаў, што Бог мне даравеў усе мае грахі.

Увосень я зьдзівіўся з павялічэньня свае радзімы; я засуміўся, што прапала адна з маіх котак, але не даведаўся аб ёй нічога, ажно аднаго дня на маё дзіва яна вярнулася дамоў із трыма кацянятамі. Я злавіў папуганё і навучыў яго гаманіць, было прыемна, як пачуеш іншы голас, апрача свайго.



Робінзон на востраве ў сваёй хаце.

У гэтую пару я навучыўся плесьці кошык зь гібкіх галінак дзярэўя, з каторых рэзаў сабе кольле, і борзда ў гэтай рабоце дасканальна навытырыўся. Наплёў іх вялікае мноства розных увелькі а яны мне вельмі гадзіліся. Знайшоў і гліну,

з каторај мог ляпіць гаршкі ј жбаны. Па шмат якіх няўдачах удалося вылепіці некалькі, я выпаліў іх у вагні і яны былі цьвярдыя ј гладкія; у јіх дзяржалася вада і я варыў на агні сабе ў јіх істраву.

## РАЗЬДЗЕЛ V

## СЬЛЕД НА ПЯСКУ.

Гэтак праляцела некалькі год. Я ня згледзіў ані карабу ані людзкога стварэньня, але быў цяперака да ўсяго прыгатаваны, шчасьлівы ј супакојны, ня тужачы па ўтрачаным. Я верыў Богу і быў вольны ад спадману ј запсаванасьці сьвету, а дзеля таго што неабходнасьць ёсьць маткаю вынаходаў, я навучыўся рабіці мноства рэчаў, каторыя, хоць былі нехарошыя ј нязграбныя, служылі мне да выгоды ј ужытку.

Прадстаўце сабе, калі ласка, мој тагачасны выгляд.

Меў я на галаве вялікую высокую брыдкую шапку з казінае скуры, адвіслую ззаду дзеля абароны ад сонца ј дажджу, бо няма нічога небесьпячнејшага ў тым клімаце, як калі зацячэ дождж пад адзежу на голае цела.

Меў далеј каптан із казінае скуры і пара кароткіх нагавіцаў з тае-ж скуры, шэрсьць каторае спушчалася мне ажно да паловы лыткаў. Чаравікаў і панчохаў ня меў, але зрабіў сабе пара чагось (ня ведаю навет як назваць), у што абкручаваў ногі і завязаваў раменчыкамі. Вобуј мој быў барбарскі, як і ўся адзежа.

Я быў папераза́ўшыся шырокім поясам із сушонае казінае скуры, а за поясам па абодвых

бакох былі заткнёныя сякерка ј пілка. Јіншы пояс, не такі шырокі, быў перавешаны ў мяне пераз плячо, і да яго з мајго левага боку былі прычэпленыя два скураныя мяшкі, адзін на порах, другі на шрот. На плячох я насіў вялікі кош ды пераз плячо стрэльбу, а над галавој меў ад сонца вялікі брыдкі парасон із казінае скуры. Бараду я стрыг даволі каротка, але запусьціў даўгія мусульманскія вусы, як бачыў у Туркаў у Салезе, хоць Маўрове јіх не насілі. Не хачу сказаць, што яны былі такія даўгія, каб я мог на јіх павесіць сваю шапку, але былі даволі вялізарныя і ў Англіји јіх проста назвалі-б страшнымі.



Прадстаўце сабе мој выгляд...

Пераходжу цяперака да дзіўное прылукі, ад каторај пачалася новая пара ў мајім жыцьцю.

Аднаго дня я пајшоў на ўзьведы ў далёкую

часьць вострава. Іідучы ўдоўж берагу, я згледзіў сьлед людзкое босае нагі ў пяску. Як-бы пярун мяне аглушыў. Я прыслухаўся і разглядаўся наўкола; але ня відзеў і ня чуў нічагусенькі. Тады ўзыйшоў на ўзгорак, каб пабачыці далей; я хадзіў уверх і ўдол па беразе. Усё дарма — ня было жадных сьлядоў, апрача гэтага. Я вярнуўся і узіраўся ў яго ізноў, каб пераканаціся, ці не здаецца гэта мне толькі. Але не, была тут выразьліва вызначена нага — з палцамі, пятой і ўсімі часьцьмі ступні.

Я так спалохаўся, што пусьціўся ўцекі да свайго дому ці крэпасьці — як яго пасьлей заўсёды называў — азіраючыся за кожным другім, трэцім крокам і прыймаючы здалеку кожны куст, дзерава або атожылу за чалавека.

Я ня спаў усю ноч — шорах*) не пакідаў мяне. Напару мне здавалася, што гэта быў дзьябал, бо які стварэнец у людзкім выглядзе мог прыйсьці ў гэтыя мясцы? Дзе быў караб, што яго прывёз? Дзе тут былі якія знакі іншых сьлядоў? Потым я ізноў падумаў, на што чарту было ськівдацца чалавекам, дзе ня было на гэта жаднае патрэбы, і пакідаць свой сьлед, калі ён ня ведаў, што я пабачу яго. Ён мог-бы знайсьці шмат іншых спосабаў, каб напалохаць мяне. Усё гэта не згаджалася з поймамі, якія звычайна маем аб хітрасьці чартовай. Дык я, напасьледак, думаў, што сьлед пакінуў хтось зьдзікуноў працілежнага контынэнту (або што я ўважаў за контынэнт і што мне здавалася з працілежнага боку вострава як няясны круг на далёкім гарызонце), каторыя выплылі на мора

---

*) вэйстры страх.

ў сваіх чаўнох, але адплылі назад, бо їм не хацелася аставацца на пустым востраве, як мне было-б няпрыемне быці зь їмі тутака.

Думка, што, мусіць, яны відзелі човен, каторы я схаваў на другім беразе вострава блізка месца, дзе згледзіў сьлед (удалося мне зрабіці з дуплістага дзерава лёгкі човен, які ўжываюць дзікуны), трывожыла мяне некалькі месяцаў, ажно аднае раніцы, па скончанай малітве, я рашчыніў біблію на месцу, дзе былі словы: „Чакай Спадара*) і будзь добрае думкі, а Ён пакрэпе твае сэрца, чакай, кажу, Спадара". Немагчыма выказаці ўцехі, якої я ад гэтага дазнаў. Адлажыў удзячне кнігу і ня суміўся ўжэ.

Я пастанавіў, што выберу некалькі месцаў у розных часьцех вострава, абгараджу їх старанна тынам і пакрыю яго дзярном і вецьцям, каб зусім чыста былі схаваныя ад вачоў дзікуноў, калі-б тыя сюды прыйшлі; на кожным з гэтых мясцоў я маніўся схаваць паў тузіну маладых козаў, каб, калі-б мо' быў загнаты з аднаго месца, мог уцячы на другое бяз страху, што тамака памру з голаду. Работа гэтая заняла мне некалькі тыднеў. Я толькі скончыў адну загарадню і выйшаў на ўзьведы, каб высачыць новае добрае месца, ажно, гледзячы ў бок мора, згледзіў у вялікай воддалі якуюсь цёмную пляму; нельга было распазнаці, што тамака было.

Я зьбег з узгорку да берагу. Тутака зьдзержыўся ў вялікім жаху.

Па беразе былі раськівены чарапы, рукі, ногі і їншыя косьці людзкіх целаў. Былі тут і астачы агню, каля каторага дзікуны, знаць, сядалі на баль, ядучы цела сваїх бліжніх.

---

*) Госпада, Пана.

Я глядзеў часіну із жахам на гэтую страшную сцэну, але борзда мяне занудзіла і я адвярнуўся ў бок, каб не замлець. Я выбег як најбарджджэј ізноў уверх на ўзгорак а адтуль бег да сваё хаты, дзе з плачам зьвярнуўся да Бога і дзякаваў Яму, што выкінуў мяне на другім баку вострава, куды гэныя людаеды ня прыјшлі.

РАЗЬДЗЕЛ VI.

## ШТО БЫЛО Ў ПЯЧУРЫ.

Па гэтым страшным здарэньню я жыў у вялікшај яшчэ адзіноце, як ранеј. Ледзь асьмеляваўся ўбіць гвозд або нашчапаць дрэва на апал, баяўся выстраліць, каб гуку гэтага ня было чуваць. Я вельмі баяўся, каб ня выдаў мяне дым, што падыјмаўся ад мајго агню над дзярэўям. Дзеля гэтага я пастанавіў, што перанясу ўсю сваю працу, каторая вымагала шмат агню, на далёкае месца ў лесе. Борзда я знајшоў на вялікую сваю радасьць прыродную пячуру.

Уход у гэную пячуру быў на краю вялікае скалы. Я знајшоў яе, як сек некалькі вялікіх сукоў на паленьне дзеравянага вугальля. Я ня мог у сваёј крэпасьці абыјсьціся бяз варанае ежы, і ўдалося мне тутака спаліці дзерава, добра схаванае пад дзярном. Як было яно чыста чорнае ј астыглае, я занёс яго дамоў і мог потым раскласьці ясны агонь, каб зварыці істраву на вялікім жару, але бяз жаднага дыму. Сякучы тутака дровы, я зацеміў за густымі кустамі якуюсь дзіру. Аддаліўшы перашкоду, я ўвајшоў у сярэдзіну.

Але прызнаюся, што яшчэ барджджэј сьпяшаўся адтуль, бо, зірнуўшы далеј у пячуру, каторая была зусім цёмная, я зглед зіў пры шэрым

бліску сьвятла ад уходу ў пячуру пара вялікіх, як дзьве зоркі, сьвецячых вачоў якогась зьвяраці, чалавека або дзьябла. Але за часіну я ахамянуўся вылаяў сам сябе, кажучы, што чалавек, каторы баjіцца абачыць чарта, ня здольны жыць дваццаць год, як я цяперака жыў, адзінюсенькі на пустым востраве, і што ня было нічога ў гэтаj пячуры страшнеjшага за мяне. Дык, адважыўшыся, узяў запаленую галіну і ўзноў паjшоў у пячуру; але ледзь ступіў тры крокі, як ізноў зжахнуўся траха так, як ранеj. Я пачуў глыбокі ўздых, бы стогн хворага чалавека, далеj перарываны гук, як ад словаў паўвымаўляных, і ўзноў глыбокі ўздых.

Я сунуўся, чуючы, як на целе выступіў сьцюдзёны пот. Каб быў на галаве капялюш, дык ён падняўся-б ад натапураных валасоў на галаве. Дадаўшы сабе адвагі, наколькі гэта было магчыма, я пасунуўся далеj. Дзержачы над галавоj запаленую галіну, я абачыў ляжачага на зямлі вялікага гідкага старога казла, што тут здыхаў ад старасьці. Я зачапіў яго крыху, каб пазнаць, ці магчыма вывесьці адтуль, але зьвяро не магло ўстаць. Я падумаў, што хаj ляжыць, бо калі патрапіў напалохаці мяне, дык напалохаў-бы j дзікуноў, калі-б сюды прыjшлі.

Я пачаў цяперака разглядацца і бачыў, што пячура была ўвелькі дванаццаць квадратовых ступнеў, была яна няправільнае хвормы. Я зацеміў такжа, што на другім канцы можна было ісьці яшчэ далеj, але праход быў такі вузкі, што можна было ісьці адно чацьвярыцаj. Я ня ведаў, куды гэты праход вёў, але сягодня нічагусенькі балей не рабіў, манючыся заўтра вярнуцца сюды зь некалькімі сьвечкамі собскага сваjго вырабу.

Назаўтрае быў я тутака ізноў із сьвечкамі і губкаю; лез праходам чацьвярыцаj траха дзесяць

локцеў. Тут пабачыў, што скляпеньне падыјмаецца ажно прыблізна на дваццаць ступнеў. Але на цэлым востраве ня было харошшага выгляду за тої, што я пабачыў на сьценах і скляпеньню пячуры, як толькі засьвяціў сьвятло. Ад маіх двох сьвечак зьзялі сьцены статысячным сьвятлом. Што было ў скале, ці дыямэнты ці іншае дарагое каменьне ці золата, я ня мог ведаці. Пячура была цямнюсенкая, але зямля была ў ёј сухая і роўная, пакрытая сыпкім краменьням і ня было тутака схоўкі гідкім зьвяратам; таксама на сьценах і скляпеньню ня было сьлядоў вогкасьці. Адзінаю загаданаю быў нізкі праход, але гэта павялічала бясьпечнасьць схову.

Дык-жэ гэт'кі бясьпечны прыпынак із гэт'кім уходам я патрабаваў. Асабліва і пастанавіў перанесьці сюды запас пораху і ўсе свае запасныя стрэльбы.

Стары казёл зараз назаўтрае здох. Я падумаў, што валеј выкапаю яму і закапаю яго на краю пячуры, чымся буду цягнуць вон.

РАЗЬДЗЕЛ VII

## СЛУГА ПЯТНІЦА.

Ужо быў дваццаць трэјці год маіго быцьця на востраве. Я так ужо прызвычаіўся тутака, што, каб не баяўся дзікуноў, згадзіўся-б пражыці астачу свајго жыцьця на востраве і потым памерці, як стары казёл у пячуры. Мој папугај Поль жыў дагэтуль — быў за мною 21 год — і ўмеў гаманіць за мною дзіўным спосабам. Шаснанцаць год быў мне любым і верным прыяцелям мој сабака, каторы потым здох ад старасьці. Я ўжо гаманіў аб свајіх катох, яны так размножыліся, што ажно

мне дадзявалі; я быў прымушаны некалькі зь їіх застрэліць, каб яны ня зьелі ўсяго, што я меў, а напасьледак і мяне. З часам яны зьдзічэлі ј разьбегліся ўсе па лесе, я пакінуў сабе толькі тры својскія, а јіхнія кацяняты заўсёды тапіў. Гэтыя каты ды дзьве својскія казе і некалькі папугаеў, сяк так гукаючых, былі цэлај маёј радзімаю.

Быў сьнежань і было вельмі горача. Зраньня да познага вечара я мусіў у полю жаць. Выјшаўшы аднојчы рана нараніцы, калі яшчэ ледзь рассьвітала, я быў зьдзіўлены, зацеміўшы на беразе сьвятло, бы ад агню. Відавочна выјшлі на бераг дзікуны і гэтым разам на мајім баку вострава.

Мне стала вельмі страшна, я задзержыўся, думаючы, што калі знајдуць дзікуны маё збожжа ў снапох або зжатае, з гэтага як га дагадаюцца, што ё тутака людзі, і не супакоюцца, пакуль мяне ня знајдуць.

Я стаяў якісь час задумаўшыся, потым пусьціўся дамоў, узяў драбінку, прыставіў яе да стоцьнага боку ўзгорку, пад каторым была мая сяліба, і выцягаваў драбінку за сабој ад краю да краю скалы, аж пакуль узьлез на верх узгорку. Тут я лёг на зямлю, узяў свој далеказор і пачаў разглядацца ў кірунку, дзе абачыў агонь.

Каля агню сядзела ня менеј дзесяцёх голых дзікуноў, яны ня грэліся, бо было вельмі горача, але, мусіць, гатавалі сабе агідную ежу зь людзёў, што прыцягнулі із сабој, я ня мог пазнаць жывых ці мертвых. На беразе былі дзьве выдаўбаныя лодкі.

Зараз настаў прыліў і вада сьціравалася на заход; тады дзікуны ўскочылі ў лодкі і паплылі борзда адтуль.

Як яны былі ўжо даволі далёка, я пабег да берагу, дзе пабачыў страшны абраз. Месца было ў крыві, ляжалі параськіданыя косьці ј астачы

мяса зь людзкіх целаў. Я вельм спалохаўся, некалькі наступных месяцаў падвоjіў сваю асьцярожнасьць і кожны дзень сачыў далеказорам, баючыся, што да маjго боку вострава прыплыве яшчэ балеj чаўноў.

Напасьледак, аднојчы нараніцы згледзіў я ў затоццы каля пяцёх чаўноў, але дзікуноў у jіх ня было відаць, яны, мусіць, выjшлі на бераг. Я ўзьлез, як сьпярша, на верх узгорку і, лёгшы ніцма, абачыў з помачаj далеказору каля трыццацёх дзікуноў ля раскладзенага агню і прыгатаванае яды; яны скакалі ўсе каля полымя з барбарскімі рухамі.

Гэтак гледзячы, я абачыў, як выцягнулі двух чалавекаў з чаўна і гатаваліся jіх забіці. Аднаго як га павалілі а два ці тры зь jіх пачалі яго зараз патрышыць. Другая жэртва стаяла пакуль што з боку, пакуль ня прыjшоў яе чарод. Відзячы гэта, ён пусьціўся ўцекі, бег вельмі борзда ўдоўж пяску—проста да мае сялібы.

Прызнаюся, што я вельмі спалохаўся, думаў, што яны ўсе пусьцяцца за jім. Але ўсё-ж такі я астаўся на сваjім месцу і відзеў, што за jім пабеглі ўсяго тры чалавекі; і відзеў, што ўцякаючы быў далёка ад jіх, і падумаў, што калі-б ён мог бегчы гэтак прынамся паўгадзіны, дык уцёк-бы. Дабегшы да ракі, уцякаючы дзікун кінуўся ў ваду; два зь ягоных перасьледавальнікаў умелі плаваць, але трэjці ня ўмеў і астаўся за ракоj. Прыjшло мне ўдум, што мяне відавочна назначыў Празор да абароны жыцьця гэтага беднага стварэнца. Дык я пабег далоў да ракі.

Як толькі мяне першы дзікун згледзіў, спыніўся спалоханы, гледзячы на мяне то назад на сваjіх непрыяцелеў. Я ківаў яму, каб ён бег далеj, і кінуўшыся проці першага перасьледавальніка

паваліў яго, выцяўшы стрэльбаю ў галаву. Другі хацеў выстраліць стралоj із луку, але я стрэліў у яго із стрэльбы і ён паваліўся мертвы.

Бедны дзікі ўцякач ледзь ня здурэў із страху, відзячы як я расправіўся зь ягонымі непрыяцельмі. Я кіўнуў яму, каб прыступіў да мяне і ўсьміхаўся да яго ласкаве, ажно, напасьледак, ён падыjшоў да мяне і, стаўшы наўкаленкі, пацалаваў зямлю. Потым нахінуў галаву і ўзяўшы ў рукі маю нагу палажыў яе далікатна сабе на галаву. Гэта, відаць, быў знак прысягі, што будзе мне заўсёды нявольнікам.



Дзікун, уклякнуўшы, пацалаваў зямлю.

Дзікун, каторага я адно ашалапуціў, цяперака сеў і пачаў разглядацца; відзячы гэта мој дзікун, бо гэтак яго мушу цяпер звацi, паказаў мне, каб яму даў свој меч. Ледзь яго дастаў, бег да свајго непрыяцеля і адным вытням сьсек яму галаву. Далеј мне паказаў, што хоча абодва трупы закапаць, каб ня зглeдзілі јіншыя дзікуны, калі-б сюды прыјшлі. Ён узяўся як га за работу і за часіну выкапаў рукамі яму ў пяску і пахаваў јіх. Потым узяў я яго адтуль, аднак не ў сваю сялібу, але ў вадзін із мајіх далёкіх сховаў, даў яму хлеба, жбанок вады і пучок разынкаў, далеј паказаў яму на крыху саломы і даў накрыціся. Ён лёг і як га цьвёрда заснуў.

Гэта быў вельмі харошы дзяцюк, дужы, крэпкі, складны і мернага росту; ён выглядаў на 26 год. Ягоны твар быў добры а ня дзікі і было ў јім штось вельмі мужнае. Рысы твару былі мяккія, падобныя да эўрапејскіх, асабліва як усьміхаўся. Валасы меў даўгія ј чорныя, але не кучаравыя, лоб шырокі ј высокі, вочы вялікія ј агністыя; скура ягоная была цёмна-аліўкавага колеру, але ня чорная і ня так да жаўціні загарэлая, як скура Бразылцаў і јіншых тубылцаў. Твар быў кру лы, нос ценкі, а ня шырокі, як у Африканцаў. Меў ён харошыя, ценкія вусны ■ зубы белыя, як сланёвая косьць.

Прачхнуўшыся, прыбег ён да мяне, выказуючы ўсялякімі знакамі сваю ўдзячнасьць і пакору. Я пајшоў із јім паглядзець, ці ёсьць яшчэ дзікуны дагэтуль на беразе; але ўсе яны ўжо адплылі. Я сказаў свајму слузе, каб ён забраў усе гэныя агідныя астачы людажэрскае яды і спаліў јіх. Відзячы, што ён цікуе на гэнае мяса, я выказаў највялікшую агіднасьць і паказаў яму знакамі, што заб'ю, калі адважыцца яго есьці.

Потым узяў яго із сабою дамоў, адзеў і пачаў вучыці. Наўперад даў яму зразумець, што ён будзе называцца Пятніца, бо ў пятніцу я яго знајшоў, навучыў яго далеј казаці „Спадару" і цеміць (разумець) значэньне словаў „але" і „не". Собскае мовы ягонае я не разумеў, але рад слухаў ягоную гутарку, бо была яна па дваццаць пяцёх гадох першым гукам людзкога голасу, што я пачуў побач із голасам свајім.

Наступны год быў најпрыямнејшы з усіх скаратаных на востраве. Пятніца борзда навучыўся даволі добра гукаці і разумеў назовы траха ўсіх рэчаў, каторыя я мог яму называць. Разам із гэтым праяўлялася з кожным днём ягоная простая, няштучная пасьцівасьць і ўдзячнасьць, і я пачаў яго шчыра любіць. З часам я ськеміў ад яго, што на горызонце быў хіба так сама востраў, хоць і ранеј ізь вялікај далячыні меў яго за контынэнт.

Пасьлеј я даведаўся, што гэта быў вялікі востраў Трынідад. Таксама пасьлеј даведаўся, што правільная мена току вады, каторую я згледзіў із свајго вострава, была ўтворана вялікім прылівам і адлівам магутнај ракі Орынока. Пятніца мне так сама сказаў, што як толькі супаруючыя дзікія нарадове гэных мясцовасьцеў мелі між собку бітву, дык пераможнікі спраўлялі пасьля яе гасьціну зь мяса палоньнікаў; значыцца выясьнілася, чаму я рэдка бачыў гэткія нягодныя гасьціны.

Я гаманіў шмат ізь Пятніцаю і, відзячы, што бедны як-бы ня мае навет појму аб рэлігіјі, вучыў яго памалу і пільне евангельля хрысьцянскае веры і расказаваў яму аб нашым выкупленьні Хрыстом. Ён задаваў мне мноства пытаньнеў, на каторыя часта мне было цяжка адказаць; у гэт'кіх прыпадках я адсылаў яго ад сябе, а сам маліўся

горача Богу, просячы здольнасьці, каб я мог навучыць гэтага беднага дзікуна і каб Бог асьвяціў яго ј мяне свајім Духам Сьвятым ды каб ён пераканаўся, каб вочы яму адчыніліся ■ душа ягоная дастала спасеньне.

Гэтак жылі мы зь Пятніцаю тры гады, і ніколі ня меў чалавек гэт'кага вернага ј адданага слугі, як быў мој Пятніца.

РАЗЬДЗЕЛ VIII.

## БЕЛЫ ПАЛОНЬНІК.

Я быў аднае раніцы нечым заняты і паслаў Пятніцу на бераг паглядзець, ці не знајшоў-бы тамака зэльву—зьвяро, каторае мы звычајне зьбіралі адзін раз у тыдзень дзеля ягоных яец і мяса, што нам давала вельмі добрую яду.

Але Пятніца борзда вярнуўся назад, перабег пераз нашую сялібу, быццам ня чуючы зямлі пад нагамі. Не пасьпеў я папытацца, як ён крыкнуў:

„О, спадару! О, спадару! Бяда!"

„Чаго Тэ, Пятніца?" пытаўся я?

„Вун тамака! — сказаў ён — адна, дзьве, тры лодкі! адна, дзьве, тры!" Бедны дзяцюк тросься так, што ледзь мог стаяць на нагах. Ён думаў, што дзікуны прыехалі па яго, каб парэзаць на кускі і зьесьці.

Я ўсьцяшаў яго, як мог, і загадаў яму, каб ён прынёс сякеру і дзьве паляўніцкія стрэльбы і набіў јіх цяжкімі кулямі; я сам узяў чатыры стрэльбы і набіў јіх шротам і малымі кулькамі, узяў яшчэ два леварвэры ј меч. Гэтак прыгатаваўшыся, я пајшоў на верх узгорку з далеказорам. Я згледзіў як га тры чаўны, адзінанцацёх дзікуноў і трох палоньнікаў.

Іступіўшы з гары далоў, я падзяліўся зь Пятніцаю аружжам і мы борзда выйшлі адтуль. Пятніцу я срога загадаў, каб ішоў побач за мной і не рабіў нічагусенькі без майго загаду. Мы далі вялікі круг у права, каля мілі дарогі, пакуль перайшлі рэчку і ўвыйшлі ў лес, дзе былі ад дзікуноў на выстрал, а самі схаваўшыся.

Паміж імі і намі было толькі ўзьлесьсе, калі я паслаў Пятніцу, каб ён падпоўз паміж дзярэўям і пастараўся высачыць, што робяць дзікуны. Ён гэта зрабіў і як га вярнуўся, кажучы, што сядзяць каля агню, ядучы аднаго з палонных, а другога, каторы ляжыць зьвязаны на пяску, зьбіраюцца забіць; г э н ы   д р у г і   б е л ы.

Мяне ахапіў жах ад гэтае страшнае весьці, я ледзь суняў свой гнеў. Паўзучы ад дзерава да дзерава, выйшлі мы зь лесу на малое ўзвышша, скуль былі добра відаць дзікуны на далячыні каля 80 локцеў. Прыйшлі мы ў вапошнюю часіну. Дзевятнанцацёх нягоднікаў сядзела каля агню, а іншыя два ўсталі, каб забіць няшчаснага белага. Яны адно нагнуліся, каб разьвязаць вяроўкі на ягоных нагах.

„Цяпер!" сказаў я Пятніцы, і абодва мы выстралілі разам.

Пятніца забіў двох і раніў трох дзікуноў адным выстралам; мне меней пашчасьціла, але забіў ткі аднаго а раніў двох. Іншыя вельмі напалохаліся; ня ведалі, куды ўцякаць. Зараз я стрэліў ізь Пятніцаю ізноў і застрэліў дальшых двох, некаторыя зь іх былі раненыя і бегалі навокал ізь енкам і выкам.

Схапіўшы цяперака стрэльбы, з каторых дагэтуль набоі былі ня выстралены, пабеглі мы проста на месца, дзе ляжаў зьвязаны белы. Абодва дзікуны ўцяклі ад нас, а цэлы карагод (груд)

іншых дзікуноў, рынуўся ў непарадку да сваіх чаўноў, перасьледаваны Пятніцаю. Я разьвязаў путы палоньніку і, падняўшы яго, пытаўся папартугальску, хто ён.

„Хрістіанус“, адказаў ён палацінску, але быў такі слабы, што ледзь мог стаяць на нагах або прагаманіць. Даў я яму крышку рому а потым кавалак хлеба, а як толькі ён трошкі падужэў, я ўсунуў яму ў руку леварвэр і меч із славамі:

„Спадару, пагукаем з вамі пасьля, [redacted] цяпер будзем ваяваць. Калі асталося ў вас крышку сілы, вазьмеце гэта і баранецеся як мага“.

Ён узяў аружжа ўдзячне і ад аднаго дакрананьня да яго здавалася набіраўся новае мужнасьці, бо кінуўся заўзята на сваіх непрыяцелеў і як стоj расьсек двох на месцу.

Дзікуны ўцякалі ў чаўнох адгэнуль, як толькі маглі борзда. Яны пакінулі ля берагу адзін човен і як-жа [redacted] зьдзівіўся, калі раптам Пятніца пачаў цалаваць, абыjмаць і да сябе гарнуць трэцяга палоньніка, дзікуна, што ляжаў зьвязаны на дне чаўна. Ён цешыўся, падскокаваў, скакаў, сьміяўся і пяяў; потым ізноў плакаў, ламаў руццэ, біў сябе ў галаву і ўзноў рабіўся як шалёны. Праjшла ладная часіна, пакуль мне ўдалося даведацца ад яго, што сталася; толькі як крыху ён адпомнеўся, сказаў мне, што ў бедным гэтым дзікуну знаjшоў собскага аjца.

РАЗЬДЗЕЛ IX.

## АСВАБАДЖЭНЬНЕ.

Як толькі мае два новыя гасьці супачылі, я выпытаваўся ў іх, як сюды лучылі. Пятніца быў перакладчыкам сваjго аjца.

Белы быў Гішпанец із груду (чарады) семнанцаёх јіншых, каторых караб утапіўся. Яны былі выкіненыя на берег паміж дзікуноў, народу, да каторага належыў і мој слуга Пятніца. Дзікуны тыя абходзіліся зь јімі ласкава, але зараз пасьля таго ў јіх была вајна зь непрыяцельскім племям і яны былі пабітыя. Некаторыя зь јіх, паміж јімі і гэты Гішпанец і Пятніцаў бацька, былі ўзядзены ў палон, і бязбогія людаеды прывезьлі јіх сюды, каб тутака свајім барбарскім звычаям зрабіці зь јіх сабе гасьціну.

У наступных тыднех я шмат гутарыў із Гішпанцам і мы, напасьледак, пастанавілі, што я пашлю яго зь Пятніцавым бацькам у чаўне назад, каб наказалі аб нас і прывіталі јіншых Гішпанцаў і пазвалі јіх жыці за мној на мајім востраве. Але мы адлажылі ўжыцьцяўленьне нашае думкі на дальшых шэсьць месяцаў, бо трэ' было цяпер забраць з поля шмат балеј збожжа, рыжу і вінаграду і выгадаваць вялікшае стада козаў, каб мог пражыці такі вялікі прырост насяленьня вострава.

Як было ўсё запраўды прыгатавана нашым гасьцём, накраталі мы ў човен даволі ежыны на ўсіх на некалькі дзён. Пятніцаў бацька спадзяваўся, што патрапе знајсьці дарогу назад да свајго вострава і меў кіраваці човенам. Я адпусьціў јіх із зычэньням шчасьлівае дарогі, умовіўшыся зь јімі аб знаках, каторыя мелі вывесіць пры паваротце на мој востраў, каб я пазнаў, што гэта яны.

Јіх ладне часу ня было і ня зьяўляліся жадныя Гішпанцы, як аднае раніцы прыбег Пятніца да мяне, крычачы: „Спадару, спадару, едуць, едуць!"

Я выскачыў, забыўшыся аб небясьпечнасьці, прабег без аружжа пераз свој гаёк, што цяпер вырас у густы лес, уніз на бераг. На дзіва сваё

я абачыў на далячыні каля паўтары мілі човен, ськіраваны проста да вострава. Я пабег ізноў дамоў, гукнуў Пятніцу і сказаў яму, каб ён быў блізка, бо гэта ня тыя людзjі, што мы чакалі, і ня ведаем мы дагэтуль, прыяцелі гэта ці непрыяцелі. Потым я ўзьбег на ўзгорак із далеказорам і ўгледзіў караб, стаячы на котве на паўтраці мілі адгэтуль у кірунку паўднёва-ўсходнім. Паводле выгляду, гэта быў караб англіцкі і човен быў англіцкі.

Не магу выказаць, як я ўсьцешыўся і устрывожыўся адначасна; неяк прыцікаліся сумляваньні — не магу сказаці скуль яны зьявіліся — што асьцярагалі мяне. Як мог апынуцца англіцкі караб у гэтым баку сьвету? Ня было буры, каторая-бы яго сюды загнала. Калі былі гэта запраўды Англіjцы, ня былі яны, відаць, з добраю мэтаю; ■ ў гэтым прыпадку ляпеj было мне астацца, дзе я быў, як лучыць у рукі злодзееў і разбоjнікаў.

Я ня доўга сумляваўся; човен прыплыў у затоку. Людзі выjшлі на бераг і цяпер ■ пераканаўся, што гэта былі Англіjцы. Васьмёх ізь jіх мела аружжа, а тры былі неазброеныя і, здавалася, мелі зьвязаныя рукі. Яны былі вельмі зьбядаваныя і асталіся на беразе, а васьмёх азброеных разьбегліся па востраве.

Ледзь яны шчэзьлі з вачоў, узяў я Пятніцу і мы папаўзьлі асьцярожна да гэных трох няшчасных. Яны, праўда, ня былі зьвязаныя, але выглядалі ашалапучанымі ад страху. „Панове", крыкнуў я, „ня боjцеся — маеце блізка прыяцеля, хоць гэтага наjменеj спадзяіцеся".

Яны ўздрыгнулі а адзін ізь jіх, абярнуўшыся да мяне, зьняў капялюш. „Спадару", сказаў і сьлёзы цяклі яму па твары, „гукае да мяне Бог, ангел ці запраўдны чалавек?"

„Ня боjцеся, спадару", адказаў я, „я чалавек—

Англіец. Скажэце нам шчыра, чым вам можам памагчы?“

Скажу каротка: я даведаўся, што спадар гэты быў капітанам карабу; што на палубе ўзьняўся бунт і плаўбіты абязбројілі яго і двох таварышаў ягоных і пастанавілі іх высадзіць, як злачынцаў, на бераг пустога, як думалі, вострава. Я мог-бы памагчы вярнуць яму караб, што з човенам лёгка можна дапяць за нябыцьця разбойнікаў, разьбеглых па востраве, а тады вярнулася-б і рэшта плаўбітоў да свае павіннасьці. За гэта ён ахвотна даў-бы мне ўсё, чаго ■ толькі зажадаю, і ўзяў-бы мяне і Пятніцу, куды толькі я захачу.

Я зь вялікай радасьцяй згадзіўся на ягоную пропозыцыю. Усё сталася, як ён спадзяваўся. Караб мусіў зараз выплыць, каб нагнаць страчаны час, так што я ня мог чакаць Гішпанцаў. Бунтаўшчыкі хацелі валей астацца на востраве, чымся ехаці ў зялезьзю ў Англію, дзе былі-б суджаныя і пэўне засуджаныя за бунт на шчырым мору. Я даў ім паперу, у каторай пакідаў іх собсьнікамі свае сялібы на востраве, сваіх запасаў, збожжа і стадаў козаў, каб яны ўсё гэта мелі супольне зь Гішпанцамі, калі-б тыя сюды прыехалі.

А потым, зь вельмі мяшаным пачуцьцём, адзеўшыся ізноў як Англіец і хрысьцянін, разьвітаваўся я із сваім вostравам, беручы Пятніцу із сабой і абяцаючы сабе, што пакуль міне некалькі год, вярнуся сюды паглядзець, як ім усім жывецца.

Разьвітаўшыся з вострава, я ўзяў із сабою на палубу на памятку высокі капялюш із казінае скуры, каторы сам зрабіў, свой скураны парасон і аднаго із сваіх папугаеў. Не забыўся я так сама ўзяць із сабою грошы, аб каторых успомнеў ранеі і каторыя ў мяне ляжалі так доўга бяз

ужытку, што ажно заржавелі і страцілі полыск; ледзь можна было пазнаць, што гэта срыбра, пакуль яны крыху не абцерліся і ня вычысьціліся.

Гэтак я пакінуў востраў 19 сьнежня 1686 г., прабыўшы тут дваццаць восем год, два месяцы і дзевятнанцаць дзён; з гэтага другога свајго палону я быў вызвалены ў той самы дзень месяца, у каторы ўцёк у даўгој лодцы ад Маўраў у Салезе. На гэтым карабе прыехаў я па даўгім плаваньню ў Англію 11 чэрвіня 1687 г., ня быўшы ў Бацькаўшчыне трыццаць пяць год.

Канец часьці першае.



РАЗЬДЗЕЛ I.

## ЯК Я ІЗНОЎ НАЖЫЎ САБЕ МАЕМАСЬЦЬ.

Як я пакінуў свој пусты востраў і вярнуўся ў Англію, быў усім тут чыста чужым, як-бы мяне тутака ніколі ня зналі. Мая прыяцелка і верная гаспадыня, удава, жыла дагэтуль, але дазнала яна шмат гора і вялося ёј на сьвеце нягодна. Я памог ёј у галіце, на колькі дазволіла мая скромная маемасьць у тую пару, ■ не забыўся яе ј пасьлеј, калі меў даволі з чаго ёј памагчы. Паехаў я ў Ёркшэр; але бацькі мае былі памершы і цэлая сям'я вымерла, асталіся адно дзьве мае сястры і двое дзеці аднаго з маіх братоў—а дзеля таго што лічылі мяне мертвым, ня ўспомнелі аба мне ў жадным адказе.

Але, вярнуўшыся ў Лёндон, я сустрэўся з удзячнасьцяј, катораj не спадзяваўся. Капітан карабу, каторага я шчасна абараніў ад ягоных плаўбітоў і гэтак ўратаваў яму караб і тавар, пахваліў мяне перад собсьнікамі за ўсё тое, што я дзеля яго ўчыніў. Тыя, разам із некаторымі купцамі, што мелі сябраныя дзелі ў карабе, пазвалі дзеля таго мяне да сябе і падарылі мне каля 200 хунтаў штэрлінгаў.

Я паплыў цяперака ў Лісабон, хочучы там знајсьці свајго старога прыяцеля, партугальскага капітана, што вызваліў мяне з афрыканскае няволі, як я ўцёк із Салегу. Мој слуга Пятніца

прапушчаў мяне ўсюды пры гэтых маіх падарожжах і аказаўся пры ўсіх здарэньнях найвярнейшым чалавекам.



Собсьнікі карабу падаравалі Робінзону каля 2оо хунтаў штэрл

Прыехаўшы ў Лісабон, я даведаўся на вялікую сваю радасьць, што мой стары прыяцель быў дагэтуль жывы, хоць даўно ўжо ня плаваў, аддаўшы гандаль у Бразылі свайму сыну. Стары мяне не пазнаў і я таксама ледзь пазнаў яго. Але борзда ён мяне прыпомнеў і быў вельмі рад із сустрэчы за мною, бо даўно лічыў, што я зьгінуў. Ён выказаваў мне найвялікшую любоў і прыязьнь і апавядаў, што як ён быў перад дзевяцьма гадамі апошні раз у Бразылі, дык мой сябра датуль жыў; але абодва суседы, каторых я быў пакінуў

загадчыкамі маjіх плянтацаў, ужэ памерлі. Калі яны, як і ўсе jіншыя, пераканаліся, што я ўтапіўся пры разьбіцьцю карабу, здалі лічбу з мае дзелі ў плянтацы пракурору, а тоj пастанавіў, у прыпадку, каб я ўжо не вярнуўся, што адна траціна дастанецца каралю а дзьве траціны манастыру сьв. Аўгустына, дзе jіх ужывуць на бедных і на навярненьне Індыjцаў; але калі-б я, ці jіншы ад мяне зьявіўся па дзель, мела быці яна мне выплачана, з выняткам тае часткі, што выдавалі кожны год на дабрадзеjныя мэты. Прыяцель запэўніў мяне таксама, што загадчык каралеўскіх прыбыткаў і загадчык манастыра ўвесь час вельмі руціліся, каб сябрук моj кожны год здаваў точную лічбу аб прыбытку з мае дзелі ў плянтацы.

Можаце сабе прадставіць, як я ўсьцешыўся; а за кароткі час дастаў ліст, што я собсьнік балеj як 5000 хунтаў штэрлінгаў гатоўкі ды зямлі, каторая давала ў год прынамся 1000 хунтаў штэрлінгаў. Я меў запраўды шчасьце, што мае справы апынуліся ў руках гэт'кіх пасьцівых людзёў.

Наўперад я адудзячыў сваjму дабрадзею, добраму старому капітану, што быў да мяне такім добрым у маёj бядзе, такім ласкавым да мяне ад пачатку і такім пасьцівым ажно да канца. Далеj успомнеў бедную ўдаву і папрасіў аднаго купца ў Лісабоне, каб напісаў сваjму карэспандэнту ў Лёндон, каб ёj ад мяне перадаў сто хунтаў, пагукаў ізь ёю і пацешыў яе ў галіце весткаj, што пакуль буду жыў, будзе даставаці ад мяне заўсёдную памогу. Сваjім дзьвём жывучым на сяле сёстрам паслаў я па сто каронаў. Хоць ня было ў jіх галіты, але j ня жылі яны вельмі добра, адна была ўдавоj, а другая мела мужа, што ня быў да яе такім добрым, якім меў-бы быці.

Я пастанавіў далей, што вярнуся сам так самы ў Лёндон, што адтуль прадам свае плянтацы ў Бразылі і асяду на рэшту дзён свајго жыцьця ў Англіі, бо ўжо надходзіла старасьць.



Робінзон спачатку зь Лісабону хацеў паехаць морам у Лёндон.

Хај ніхто не заглушуе ў сабе чуцьця сэрца, калі стајіць перад якој важнај зьменаю ў свајім жыцьцю. Я быў траха ўжо пастанавіў, што паплыву зь Лісабону ў Лёндон, як пачуў штось у свајім сэрцу—ня ведаю скуль гэта прыходзіла— што мяне зьдзержавала і пастрашала няшчасьцям, калі пастаўлю на свајім. Я ўжо выбраў і два карабы, адзін па адным, і казаў на палубу завезьці некаторыя свае рэчы. Але сэрца маё запраўды чула і добра я зрабіў, што яго паслухаў, бо адзін із гэных карабаў захапілі алжырскія піраты, а другі

разьбіўся ля Торбэј і ўсе людзі, апрача трох, утапіліся.

Думкі мае мяшаліся, я ня ведаў, што рабіць і апавядаў аб гэтым свајму старому прыяцелю, партугальскаму капітану. Ён раіў мне сур'ёзна, каб я ехаў па сушы пераз Гішпанію і Францыю ў Кале, так што мне адтуль асталася-б кароткая дарога морам у Довэр. Дзеля таго што я не сьпяшаўся і не шкадаваў выдаткаў, было гэта і шмат прыямнејшае падарожжа. Каб было яно яшчэ весялејшае, даведаўся мој стары капітан аб адным Англіјцу, сыну купца ў Лісабоне, каторы хацеў ехаць за мною. За якісь час забралі мы дальшых двух англіјскіх купцоў і двух маладых Партугалцаў, што ехалі ў Парыж. Дык нас усіх было шасьцёх і пяцёх слуг, бо, апрача мајго Пятніцы, каторы ў Эўропе нічагусенькі ня знаў, я згадзіў англіцкага плаўбіта, каб падарожнічаў за мној.

Гэтак мы выехалі на добрых конех із Лісабону, запасшыся добрым аружжам. Нас быў цэлы адзьдзел і быў мне зроблены гонар, што я, як најстаршы, быў назначаны яго камандзерам.

Прыехаўшы ў Мадрыд, мы хацелі там пабыць якісь час, каб паглядзець на каралеўскі двор і што јіншае цікаўнејшае, бо Гішпаніјі мы ня зналі. Але надыходзіла зіма і трэба нам было адтуль сьпяшацца. Пакінулі Мадрыд у палове кастрычніка.

Прыехаўшы да граніцы Наварры, мы былі ўстрывожаны весьцяј, што на францускім баку гораў најшло гэтулькі сьнегу, што многія падарожнікі мусілі вярнуцца ў Пампэлюну; даехаўшы да Пампэлюны, мы пабачылі, што гэта праўда. Я, прызвычаены да гарачага клімату і краёў, дзе ледзь крыху адзяваўся, ня мог цярпець зімы і вострага ветру, што веяў із Пірэнэеў, і баяўся, каб не адмерзьлі палцы на руках і нагах.

Бедны Пятніца ўвесь зжахнуўся, як абачыў уяршыню горы, пакрытыя сьнегам і пачуў зіму, чаго ніколі ня відзеў і ня чуў. Пакуль мы былі ў Пампэлюне, ішоў заўсёды вялікі сьнег, казалі, што зіма без пары прыходзе. Дарогі, ранеј ужо ладне папсаваныя, сталіся цяпер зусім непраходнымі; было небясьпечне, што нас замяце жывымі на кожным кроку.

Як мы былі ў Пампэлюне ўжо двацццаць дзён і відзелі, што ўсё мерзьне а нямаш надзеі на паляпшэньне (гэта была најмаразянејшая зіма, якую хто калі ў Эўропе помнеў), я прапанаваў павярнуць у бок да Фонтарабіјі і адтуль плысьці ў Бордо; гэта была-б блізкая дарога. Але ў гэты час да нас даведаліся чатыры Французы, каторых зьдзержылі сьнягі на француcкім баку праходу, як нас на гішпанскім, і каторыя там знајшлі правадыра, што јіх правёў атумекамі па нязвычајных дарогах ізь Лянгедоку. Яны казалі, што ня мелі вялікіх перашкодаў а дзе лучылі на сьнег, дык быў ён даволі ўмерзлы, каб выдзержаць коньнікаў.

Мы як га паслалі па гэнага правадыра, каторы зьбіраўся вярнуцца ў сваю бацькаўшчыну, і нанялі яго, каб нас перавёў пераз горы тэј-жа дарогаю. Ён згадзіўся на гэта з умоваю, што будзем даволі ўзброеныя, каб маглі бараніцца ад дзікіх зьвяроў; ён казаў, што ў гэтыя мяцеліцы прыходзяць часта з гораў ваўкі, злыя дзеля нястачы еміны. Мы сказалі яму, што мы даволі прыгатаваныя да сустрэчы з таковымі стварэньнямі, калі ён патрапе забясьпечыць нас ад ваўкоў двуногіх. Ён супакојіў нас, што нямашака. гэт'кае небясьпечнасьці на дарозе, кудој паедзем Дык мы згадзіліся ехаці за јім, як і дванаццаць јіншых спадароў із слугамі, каторыя ўжо прабавалі перабрацца пераз горы і мусілі вярнуціся ў Пампэлюну.

Дык ладне павялічанаj таўпою 15 лістападу выехалі мы ў дарогу; спачатку ехалі каля дваццёх мілеў назад у кірунку да Мадрыду. Павадыр закіраваўся далеj улева і прыблізіўся да гораў jіншаю дарогаю. Хоць горы j бяздоньні страшныя былі, але ён рабіў гэтулькі аб'ездаў і вёў нас гэтулькімі атумекамі, што мы не агледзіліся, як узьехалі на вярхі гораў, і сьнег нам ня надта дадзяваў. Хоць із вялікае далячыні, паказаў ён нам неўспадзеўкі прынадныя j ураджаjныя краjі Лянгедоку j Гасконьшчыны ўсе ў зялeніве j цьвеце. Але аставалася яшчэ нам ладне дарогі.

РАЗЬДЗЕЛ II.

## ПЯТНІЦА ВУЧА МЕДЗЬВЯДЗЯ СКАКАЦІ.

Мы зьяжджалі цяперака з гораў на францускім баку праходу. Было каля дзьвёх гадзінаў па заходзе сонца; наш павадыр паехаў крыху напеpад і шчэз нам із вачоў, калі раптам із гушчару выскачылі тры агідныя ваўкі. Два зь jіх кінуліся на павадыра. Адзін скочыў да ягонага каня, а другі так рынуўся на чалавека, што тоj не пасьпеў выцягнуць леварвэра. Пачуўшы ягоны крык і гуканьне помачы, прасіў я Пятніцу, каб борзда паехаў і паглядзеў, што дзеецца. Як адно Пятніца ўгледзіў павадыра, пачаў крычэць таксама голасна, як ён: „О, спадару! О спадару!“ Але, будучы адважным дзяцюком, ён ехаў проста да няшчаснага і стрэліў із сваjго леварвэра ваўку ў галаву. Відзячы гэта, другі воўк, што напаў на каня, пусьціў таго і ўцёк.

Усё гэта спалохала-б і сьмялеjшага за мяне чалавека; а наш груд падарожнікаў запраўды зжахнуўся, як па выстрале Пятніцавым пачулі мы наабапал дарогі страшнае выцьцё ваўкоў. Наш

бедны павадыр быў сур'ёзна ранены; злое зьвяро ўкусіла яго двойчы, адзін раз у плячо, а другі пад каленам. Як Пятніца сьпяшаўся яго бараніць, ён валіўся далоў із каня. Як толькі мы выехалі з гушчару, дзе не маглі разгледзіцца, пабачылі толькі ў якој небясьпечнасьці былі.

Але ніколі ня было бітвы, ведзенај так, як было ходаньне памі-к Пятніцај і медзьвядзём, што зьявіўся па сьлядох ваўкоў. Мядзьведзь ё цяжкім непавараткім зьвяром і ня можа так бегчы, як воўк, каторы ёсьць лёгкі ј вёрткі. Людзі ня бываюць ягонај здабычај, дык на јіх звычајна ён не нападае, хіба вельмі выгаладніўшыся. Калі пакінеце яго ў супакою, пакіне ён і вас. Але трэба быці да яго вельмі ветлым і ўступіць яму, бо ён вялікі пан. Ня іступіць із дарогі ані кроку, што хочаш рабі. Калі бајіцеся медзьвядзя, запраўды раю вам, каб абмінулі яго і јшлі далеј; бо калі задзержыцеся ј паглядзіце на яго, уважае гэта за вызаў, а калі пусьціце ў яго хоць галінкај увелькі з ваш палец, ён ліча сябе зьняважаным і кіне ўсё, абы толькі на вас памсьціцца; не адстане ад вас датуль, пакуль свајго не дапне.

Пятніца памагаў павадыру зьлезьці з каня, бо бедны быў паранены ј напалоханы, як неўспадзеўкі мы згледзілі выходзячага зь лесу медзьвядзя. Ён быў вялізарны; највялікшы, якога я калі відзеў. „Го, го, го!" крыкнуў Пятніца, паказуючы на яго. „Спадару! дазвольце мне прывітацца зь јім; пасьмяшыць усіх".

Зьдзівіла мяне, што мој слуга так цешыўся. „Дуранчык ты", сказаў я, „ён-жа цябе зьесьць".

„Зьесьць мяне? зьесьць мяне?" паўтараў Пятніца; „я зьем яго! Астанцеся тут усе, я пакажу вам дзівосы". Ён сеў на зямлю, разуў як га боты і абуў пару ценкіх чаравікаў, што меў у кішані.

Потым даў падзяржаць каня маjму англіцкаму плаўбіту і борзда, як вецер, адбегся із сваёj стрэльбаj.

Мядзьведзь ішоў памалу, ня выказуючы ахвоты зь кім-колечы ходацца. Пятніца падыjшоў даволі блізка да яго і крыкнуў: „Гэj, гэj, я хачу гаманіці з табою!" Мядзьведзь на яго навет не зьвярнуў увагі, ажно Пятніца падняў камень і, пусьціўшы ў медзьвядзя, лучыў яму ў галаву. Не забалела ад гэтага яму балеj, як калі б ён выцяўся аб сьцяну, але мядзьведзь уважаў гэта за зьнявагу, і, абярнуўшыся, пусьціўся за Пятніцаj вельмі даўгімі сігнямі (крокамі), так што конь мусіў-бы даволі борзда бегчы, каб не астацца ад яго. Пятніца ўцякаў у наш бок, як-бы хочучы знаjсьці тут абарону. Мы ўсе прыгатаваліся да выстралу, хоць я шчыра на яго злаваў, што медзьвядзя вядзе назад да нас, асабліва як тоj ішоў сьпярша сабе супакоjне зусім у jіншы бок.

Неўспадзеўкі Пятніца падаўся ў бок ад нас і ўмела ўзьлез на таўсты дуб, пакінуўшы стрэльбу на зямлі. Мядзьведзь борзда дабег да дзерава; мы ехалі не далёка ад яго; мядзьведзь панюхаў стрэльбу, але пакінуў яе і палез, як кот, на дзерава, хоць быў вельмі цяжкі j непавараткі.

Як мы даехалі да дзерава, стаяў Пятніца на канцы таўстога сука, а мядзьведзь быў на поў дарогі ад яго. Як толькі мядзьведзь далез да месца, дзе сук быў слабшы, Пятніца крыкнуў: „Гэj, цяпер пабачыце, як я навучу медзьвядзя скакаць", і пачаў падскокаваць і трэсьці суком. Мядзьведзь стаў хістацца j задзержаваўся лапамі, азіраючыся, як-бы думаў, як вернуцца назад. Мы запраўды сьмяяліся шчыра. Але Пятніца яшчэ толькі пачынаў свае „дзівосы". Ён ізноў сьцішыўся і гукнуў да медзьвядзя: „Ня поjдзеш далеj? Паjдзі, калі

ласка, далej!" а мядзьведзь, быццам разумеў, і ступіў наперад. Тады Пятніца пачаў ізноў скакаць і мядзьведзь ізноў задзержыўся. Мы думалі, што цяпер адпаведная часіна і крыкнулі Пятніцу, каб стаяў ціха, бо страляем у медзьвядзя, але ён закрычэў: „О, калі ласка! Калі ласка не страляjце! Я сам потым стрэлю", так горача, што мы зьдзержыліся.

Пятніца скакаў толькі, а мядзьведзь пазіраў так дурна, што мы аж за бакі хапаліся, хоць не патрапілі сабе прадставіць, што станецца далej і які будзе канец. Мы думалі сьпярша, што хоча медзьвядзя стрэсьці, але мядзьведзь на гэта вельмі хітры. Ён ня jшоў так далёка, каб мог быці ськінены, і дзяржаўся моцна шырокімі лапамі. Пятніца, пабачыўшы, што медзьвядзя далej не завядзе, сказаў: „Ну, ну, ня jдзеш ты далej, паjду я; ты ня jдзеш да мяне, дык паjду я да цябе", паjшоў ажно на канец галіны, дзе тая загнулася пад яго цяжарам і спушчаўся памалу далоў, аж пакуль ня быў так блізка да зямлі, што мог лёгка заскочыць; бег тады як га па стрэльбу.

Мядзьведзь, пабачыўшы, што непрыяцель ягоны шчэз, вярнуўся зь месца, дзе стаяў, да таўсьцеjшаj часьці галіны. Рабіў гэта вельмі асьцярожне, азіраючыся пры кожным кроку, аж пакуль не даjшоў да камля дзерава; злазіў і далej усё задам па камлі, прыдзержываючыся лапамі і вельмі памалу перастаўляючы адну нагу за аднэj. Цяпер прыjшла часіна Пятніцу; пярвеj чымся мог мядзьведзь паставіць заднюю нагу на замлі, ён падыjшоў, прылажыў рульку стрэльбы зьвяраці да вуха і застрэліў яго. Тады абярнуўся да нас і зарагатаў. „Гэтак забіваем медзьвядзі ў нас", казаў „не із стрэльбы, але даўгімі стрэламі".

Гэта была нам вялікая забава; але мы былі

ў пустыні, наш павадыр быў цяжка ранены. Мы мелі траха тры мілі дарогі перад сабој, а ў вушох нам гучэла выцьцё ваўкоў. Дык сьпяшаліся адтуль і не парупіліся навет аб скуры медзьвядзя, каторую варта было захаваць. Прыблізна за гадзіну прыехалі мы да месца, дзе мелі перанача-ваць. Людзі былі ў вялікім страху і ўсе ўзброе-ныя. Здаецца, што ў мінулую ноч прыјшлі ваўкі і некалькі медзьвядзёў у вёску і так перапалохалі людзёў, што мужчыны сягодня вартавалі ўдзень і ўночы.



Пятніца вуча скакаць медзьвядзя.

Назаўтрае было нашаму павадыру так нягод-на, ад падражненьня ранаў шлункі *) яго так

*) часьці цела.

абцяклі, што ён ня мог ехаці далеј. Мы былі прымушаны пакінуць яго ў сяле і ўзяць сабе новага павадыра каторы нас прывёў у Тулюзу, дзе мы знајшлі цёплы, клімат і ўраджајнь. пазорны крај—бязь сьнегу, бяз ваўкоў і без чаго-колечы падобнага. Як мы ў Тулюзе апавядалі аб здарэньню ў гарах, сказалі нам людзі, што гэта нічога надзвычајнага ўзімку ў вялікіх лясох, ля ісподу гораў, калі ёсьць балеј сьнегу. Выпытаваліся нас доўга, якога мы мелі павадыра, што адважыўся нас весьці тудој у маразяную пару і дзівіліся, што мы ўсе ня зьгінулі. Калі я ўспомнеў стада каля трыста ваўкоў, што вылі каля нас і адчынялі ляпы, каб нас зжэрці, а мы ня мелі чым бараніцца, я чуў, што ніколі не захачу ехаці пераз гэныя горы. На‘т, думаю, што цяперака таксама валеј плыў-бы тысяча міляў па мору, і калі-б мяне мела напэўна сустрэці што тыдзень бура.

Дарогај праз Францыю ня сталася нічога надзвычајнага. Мы прыехалі ў Парыж, ■ стуль у Кале і я бясьпечне 14 студня прыплыў у Довэр. Дарога з Мадрыду трывала тры месяцы.

## РАЗЬДЗЕЛ III.

# Я ІЗНОЎ РВУСЯ Ў ПАДАРОЖЖА.

Ледзь я прадаў сваю плянтацу ў Бразылі і дастаў за яе грошы, ледзь вярнуўся ў Англію, дзе хацеў асесьці на астатак свајго жыцьця, як ізноў стаў пачуваць несупакој; але ведаючы, што гэтае пачуцьцё неразумнае, наважыў ходацца проці яго, што мне на якісь час удалося. Я ўпарадчыў свае справы, пры гэтым галоўным вучыцелям і патајным рајцам мајім была мая добрая старая ўдава,

каторая, з удзячнасьці за грошы, што я ёj паслаў, жаднае стараньне для мяне ня лічыла вялікім. Я быў зусім супакоjны што да бясьпечнасьці маjіх дарагіх рэчаў, каторыя ёj даў на схоўку, і быў запраўды ад пачатку ажно дагэтуль шчасьлівы, што гэтая дабрародная жанчына такая беззаганна пасьцівая. Гэта яна была, каторај першај удалося суняць маю несупакоjную тугу.

У наступных гадох я знаjшоў двух хлапцоў, сіротаў па сваjім брату, і ўзгадаваў jіх; аднаму, што пасьля меў собскую гаспадарку, я даў адпаведную асьвету; другога, што быў кемны, адважны j прадпрыемлівы дзяцюк, паслаў на мора. Я ажаніўся такжа і меў трох дзяцеj. Пакуль жыла мая жонка, пакінула зусім мяне мая несупакоjная туга. Я купіў малую гаспадарку ў Бэдфордшэры, каторај так захапіўся j заняўся, што мне напару здавалася, калі рабіў я пляны на яе паляпшэньне, што мне вярнуўся супакоj і шчасьце маjго пустога вострава. Мая любая жана была мне апораю j асяродкам усіх маjіх плянаў; яе розуму ўдалося супакоjіць і весьці моj несупакоjны дух балеj, чымся гэта патрапілі зрабіць сьлёзы матчыны, рады аjцовы, умовы маjіх старшых прыяцелеў і ўвесь моj розум разам. Я быў шчасьлівы, пакуль яе слухаў. Але гора! па сямёх гадох Бог яе забраў.

Па яе сьмерці я чуўся чыста апушчаным і разьбітым на сьвеце. Ня відзеў у jім радасьці. Я чуўся такім чужнікам, як калі ўпяршыню прыехаў у Бразылю, і так апушчаным, як спачатку на сваjім востраве. Ня ведаў я, што маю думаць і што чыніць. Пакінула мяне мая разумная парадніца; я быў як караб бяз стырніка, гнаны ветрам. А цяперка вярнулася з падвоjнај сілај да мяне мая старая несупакоjная туга. Усе мае думкі

лёталі ізноў далёка, мая галава была поўная плянаў аб чужакрајных прылуках, а ўсе прыемныя занняткі ў маёј гаспадарцы, гароды, сады, својская жывёла і мая сям'я, што ранеј чыста мяне захапілі, ня былі цяпер нічым, ня цешыўся я зь јіх, як ня цешыцца глухі з музыкі а нямаючы смаку з ласонікаў. Я пакінуў сваю ґаспадарку і свој дом і паехаў у Лёндон.

Але ня стала мне там лягчэј. Нічога мне не падабалася, ня маючы нічога рабіць, я туляўся зь месца на месца, як дармаед, непатрэбны божы стварэнец, аб катор м рэшта людзёў можа сказаць, што јім усё роўна, жывы ён ці ўмерлы. Ад гэтага мне было најцяжэј і я часта казаў сам сабе, што мне шмат ляпеј было тады, калі зрабеньне дошкі заняло мне дваццаць шэсьць дзён.

Зараз пасьля таго вярнуўся дамоў сыновец, што ▪ выправіў на мора, каторы быў цяперака капітанам карабу. Ён сказаў мне, што некалькі знаёмых купцоў ягоных запрапанавала яму, каб, як прыватны прадпрыемца, выехаў за јіх у Хіну і па дарозе затрымаўся ў Бразылі. „А цяпер, дзядзька", гукаў ён, „калі хочаце ехаці за мноі, пабрабую з вашэцям даведацца да вашэцявага старога вострава, бо, мусіць, ваша цікавісься, як там усім жывецца".

Лёгка сабе прадставіць, што я доўга ня думаў. Цяпер, па сьмерці мае жонкі, нікому ня было да мяне дзела, каб хто рупіўся аб тым, што я раблю, апрача мае старое прыяцелкі ўдавы, каторая мяне горача прасіла, каб я шанаваў сваю старасьць, што гэта дзяцінства пушчацца без патрэбы ў небясьпечнае даўгое падарожжа, а наўперад, каб падумаў, што маю дзеці. Але гэта не памагло. Я меў такую неперможную тугу па падарожнічаньню, што мне здавалася, быццам ізгра-

шыў-бы Празора, калі-б хацеў астацца дома; як я сказаў гэта сваёј прыяцелцы, перастала яна за мноj спрачацца j памагала зьбірацца ў дарогу. Я ўпарадчыў свае сямеjныя справы і ўстанавіў даглядні̇каў свае маемасьці j узгадаваньня сваjіх трох дзеці. Гэтых пакінуў у ўдавы, каторая мела даглядаць jіх узгадаваньня. Падараваў ёj і даволі грошы на пражыцьцё як надгароду за еjныя стараньні. Яна гэтага ў поўнаj меры заслужыла, бо навет маці не магла-б ляпеj рупіцца аб сваjім дзіцяці і ляпеj яго не разумела-б. Жыла яна ажно да маjго павароту дамоў, ■ я жыў таксама так доўга, што мог ёj падзякаваць.

## РАЗЬДЗЕЛ IV.

## ДАВЯДАЮСЯ НА ВОСТРАЎ.

Моj сыновец прыгатаваўся выплыць у пачатку студня 1695 г. Дык я ўзыjшоў ізь Пятніцам на палубу 8 студня з ладным накратам усялякага тавару, каб завезьці сваёj калёні на востраве. Была тут розная вопратка j матар'ял на вопратку дальшую, вялікае мноства хатніх прыладаў, гаршкоў, мядніцаў, некалькі пасьцелеў ізь пярынамі, сто стрэльбаў, леварвэраў і jіншага аружжа із запасам пораху, шроту j кулеў на некалькі год. Я вёз із сабою і двух цесьлеў, каваля, катляра, што быў таксама машынным маjстрам, і краўца, напасьледак, узяў некалькі сьвіньнеў і дзьве каровы зь цялятамі.

У нашым падарожжу было мала здарэньнеў, апрача таго, што мы згледзілі, як гарэў адзін караб і маглі ўратаваць ізь яго некалькі людзёў а такжа згледзілі jіншы караб, што ледзь дзяржаўся на вадзе, так ён быў разьбіты. На палубе

яго было некалькі чалавекаў, гінучых із голаду, паміж jімі малады Францішканін, што потым навярнуўў на веру некалькі дзікуноў, каторых я перад сяма або васьма гадамі пакінуў на востраве.

Мы былі цяперака на 19° 32' паўночнае шырыні. Плавалі якісь час паміж астравамі малога архіпэлягу (бо ня было знаку, па якім я мог-бы пазнаць с в о j востраў здалеку), ажно, напасьледак, 10 красавіка 1695 г. задзержыліся мы ля калішняе мае сялібы. Запусьцілі мы котву з карабу бясьпечне так, што караб стаў бокам проці мае затокі, зараз я гукнуў Пятніцу і папытаўся ў яго, ці ведае ён, дзе мы. Ён часінку разглядаўся а потым, пляснуўшы рукамі, крыкнуў: „О але, тут! О але, тут!" і пачаў скакаць і падскакаваць, як шалёны. Я мусіў яго ўдзержаваць, каб ня скочыў у мора. Але за часінку нябога выглядаў вельмі зьнемарашчаным і буjныя сьлёзы каціліся яму па твары. „Што тэ, Пятніца?" пытаўся я: „баjісься, што ня знаjдзеш тут сваjго аjца?" „О не, не," закруціў галавоj, „не пабачу яго балеj; даўно ўмер, вельмі стары быў".

Магу з радасьцяj сказаць, што Пятніца мыліўся, бо стары дзікун жыў дагэтуль і быў здаровы. Кожны, хоць-бы j наjмацнеj наперад пастанавіў, што так ня ўчыніць, заліваўся-бы сьлізьмі, відзячы першыя выбухі радасьці беднага дзяцюка. Абыjмаў бацьку, цалаваў яго, падыjмаў на руццэ, клаўся ля яго, гладзіў яму назе і цалаваў jіх. Потым стаяў і глядзеў на яго, як-бы на зацны абраз, прынамся чэцьверць гадзіны; а назаўтрае вадзіў яго за руку, бы гэта была якаясь спадарыня, адбягаўся кожную часіну да лодкі, каб адтуль штось аjцу прынясьці — сухар або дроб цукру. Кал-б паміж хрысьцянмі ў нашаj часьці сьвету была такая дзяціная любоў да бацькоў,

ня трэ было-б чацьвертага прыказаньня.

Я доўга гукаў із сваjімі наступнік мі, Гішпанцамі, і выслухаў цэлую гісторыю jіхняга жыцьця адгэнуль, як я пакінуў востраў. Апавядалі мне аб ппаўбітох, што былі збунтаваліся, каторых я пакінуў таксама на востраве; як яны крыўдзілі бедных Гішпанцаў, як ізь jімі пагадзіліся і ўзноў павадзіліся, злучыліся j падзяліліся, і як, напасьледак, Гішпанцы дзеля самаабароны былі прымушаны ўжыць проці jіх сілы, як разбоjнікі, напасьледак, паддаліся і як пасьціве j ласкаве Гішпанцы зь jімі абыjшліся, як караібскія дзікуны некалькі разоў прыплылі да вострава, але былі адбітыя, як із вострава зрабілі напад на контынэнце і павялі сабе адзінанцацёх мужчынаў і іпяцёх жанок у палон, мужчынаў у няволю, а жанок за жонаў, так што цяперака бегае па востраве каля дваццацёх малых дзеці.

Былі мы на востраве дваццаць дзён, я пакінуў jім там багатыя запасы j работнікаў, каторых прывёз jз сабою: Абяцаўшы, што пашлю jім із Бразылі якую своjскую жывёлу ды жанок, жадаючым ажаніцца, я разьвітаўся апошні раз із вострава м і паплыў.

Цяпер я мушу сказаць аб адным вельмі смутным здарэньню. Ледзь мы на тры дні адплылі ад вострава на дарозе ў Бразылю, як нас абкружыла мноства лодак ізь дзікунамі. Мы стараліся не задзірацца зь jімі і хацелі страляць адно дзеля самаабароны, але яны падплылі так блізка да заду карабу, што я мог jіх добра пазнаць. Былі тут некаторыя з маjіх старых „прыяцелеў“, страшных людаедаў, з каторымі я каліс ходаўся на востраве. Я загадаў сваjім людзём, каб схаваліся, і меў прыгатаваныя гарматы. Дзеля таго што мы не маглі даведацца, чаго яны хочуць, я сказаў Пятніцу,

каб ён пайшоў на палубу і пагаманіў ізь імі ў іхняй мове. Ня ведаю, ці зразумелі яны яго, але як толькі да іх крыкнуў, павярнулася да яго голымі плячыма ў найбліжшай лодцы шасьцёх чалавекаў. Мы не даведаліся, ці гэта было грэбаваньне ці вызаў, але Пятніца як га крыкнуў, што яны гатуюцца страляць. Ледзь ён прагукаў, выстралілі дзікуны каля трыста стрэлаў і на нявыказаны мой жаль забілі Пятніцу. Нікога іншага ня было на палубе.

Я як га загадаў набіць пяць гарматаў шротам а чатыры кулямі і выстраліў процi іх цэлай старанoй гарматаў, што яны ў жыцьці ня чулі ніколі гэткае пальбы. Зь якой-бы радасьцяй мой беднывeрны Пятніца паперакуляў іхнія лодкі і ўтапіў-бы кожнага зь іх. Яны ўцякалі так борзда, што за некалькі гадзінаў ня было відаць ані воднае лодкі.

Бедны пасьцівы Пятніца! Пахавалі мы яго ў дамавіне, каторую спусьцілі ў мора з усёй магчымай славай, на апошняе разьвітаньне я загадаў даць адзінанцаць выстралаў із гарматаў. Гэтак я разьвітаўся зь Пятніцам, з найвярнейшым, найудзячнейшым, найпасьціўшым і найадданейшым слугой якога калі хто меў.

## РАЗЬДЗЕЛ V.

## НОВЫЯ НЯЎДАЧЫ.

Мы прыплылі ў Бразылю бяз дальшых няшчасьцеў; калі я споўніў абяцаньне, дадзенае маёй колёні, што ім пашлю людзёў і жывёлу, мы адплылі адтуль.

Управіўшыся зусім чыста з востравам, я скіраваў свае думкі да Ўсходняе Індыі і Хіны, куды плыў караб сыноўцаў. Шчасьлівы я быў-бы, калі-б супакоіўся адведзінамі вострава і, сеўшы

ў Бразылі на караб, вярнуўся ў Англію. Мне так трэ' было ехаці ў Усходнюю Індыю, як калі-б чалавек маючы поўную свабоду, ішоў да загадчыка катаргаj у Ньюгеjт*) і прасіўся, каб яго зачынілі і марылі голадам. Або калі-б я астаўся на востраве і арганізаваў на jім брытанскую калёню, пад брытанскаj уладаю, я зрабіў-бы, як разумны чалавек. Але я ўрадзіўся, каб самахоць кідацца ў няшчасьці; было мне ўсё роўна, ці маю якую патрэбу у Усходняj Індыjі, ці не; я сеў на караб дзеля падарожжа, дык і падарожнічаў.

З Бразылі паплылі мы проста пераз Атлянтыцкі акеан да Мысу Добрае Надзеjі, дзе набралі сьвежае вады, а потым задзержыліся ажно ля Мадагаскару. Тут із намі прылучылася няшчасьце. Ледзь нашыя плаўбіты выjшлі з карабу на востраў, адзін ізь jіх вельмі зьняважыў мясцовую маладую жанчыну; зараз мужчыны еjнага племені схапілі яго, падрэзалі яму горла і павесілі на дзераве галавоj уніз. За гэта плаўбіты, забыўшыся справядлівасьць, і што Тамаш Джэфры быў вінен, імсьціліся ў вёсцы як чарты, падпаляючы дамы і забіваючы, да каго толькі з тубылцаў дапалі. Ледзь мы ўцяклі на палубу і гэтак ураталіся.

Хоць плаўбіты апраўдавалі сваё злачынства, але я быў проці гэтага. Я сказаў jім, што хоць тубылцы і забілі Тамаша Джэфрага, але ён нападаў, бо страшна пакрыўдзіў маладую жанчыну, каторая з аднэj яшчэ старој зусім нявіньне з поўнаj вераю ў нашаю пасьцівасьць прыjшла нам прадаці крыху малака j зяленіва. Сказаў jім далеj, што кроў, каторую яны пралілі, будзе залічана за ўбіўства і што Бог за jіх віну нас пакарае ў дарозе. Гэта jіх вельмі раззлавала. Яны не маглі,

*) турма ў Лёндоне.

сьцерпіць слова „ўбіўства“ і старшы над імі плаўбіт сказаў мне груба, што калі я не адмоўлюся ад гэтага слова і не абяцаю ім, што, вярнуўшыся ў Англію, не скажу аб гэтым ані слова, ён ад імені ўсіх заяўляе, што не астануцца яны далей за мной на гэтым карабе, што я адно падарожнік, і хай яны робяць што хаця, мне да гэтага нямаш жаднага дзела — хоць запраўды я быў у значнай часьці палавічнікам карабу.

Мы былі ў Бэнгальскай затоццы і я зь некалькімі плаўбітамі і нагляднікам тавару выйшаў на бераг, каб паглядзець на тое-сёе. Увечары, як мы зьбіраліся ізноў на палубу, падыйшоў да мяне адзін із плаўбітоў і сказаў зьняважліва, каб я не сядаў у лодку, бо старшы плаўбіт загадаў, каб мяне ніхто зь іх ня пушчаў на палубу.

Лёгка сабе прадставіць маё зьдзіўленьне з гэтага бязуважнага загаду. Я як га пайшоў да наглядніка тавару і расказаў яму ўсё, кажучы, што я прадбачыў бунт на карабе і прасіў яго пайсьці на палубу і наказаць аб гэтым капітану. Але пярвей чымся нагляднік выйшаў, прыйшоў мой сыновец сам на бераг вельмі зьнемарашчаны. Ён паведаміў мяне, што зара па маім адыходзе прыйшоў да яго старшы плаўбіт, машыністы, цесьля і ўсі падахвіцэры і старшы меў да яго даўгую прамову, што калі я не пакіну самахоць як га карабу, дык усе чыста людзі ад яго адыйдуць. Пры словах усе чыста зьвярнуўся старшы тварам да галоўнага стацьцявіка; гэта, мусіць, было ўмоўленым знакам, і ўсе плаўбіты, забраныя тутака, крычэлі ў вадзін голас: „Усе чыста! Усе чыста!“

Відзячы, што мой сыновец апынуўся ў надзвычайна цяжкім палажэньню, я сказаў яму, каб ён ня трывожыўся, бо я астануся на беразе. Прасіў яго толькі, каб паслаў мне на бераг усе мае

рэчы і пакінуў мне даволі грошы, што я неяк знайду дарогу ў Англію. Цяжка было яму гэта споўніць, але нічога ня можна было зрабіць. Ён вярнуўся на палубу і супакоіў людзёў. За некалькі гадзінаў усё ўцішылася. Людзі вярнуліся да сваіх павіннасьцеў, а я пачаў думаць, што мне рабіць.

Я быў адзін у найдальшых канцох сьвету, траха на тры тысячы мілеў па мору далей ад Англіі, чымся я быў на маіх астравох. Праўда, адгэтуль я мог падарожнічаць па сушы праз гаспадарства Вялікага Могола ў Сурат, адтуль па мору ў Боссору, далей Перскай затокай, а потым караванам праз Арабскую пустыню ў Алеппа і Скондэрун; адтуль ізноў морам у Італію і сушай у Францыю. Мог-бы такжа ў Бэнгалю пачакаць якога-колечы англіцкага карабу з Ахіна на востраве Суматры і паехаць на ім у Англію; але дзеля таго што я прыехаў незалежна ад Усходне-індыйскай кумпані, было мне цяжка выехаць бязь ейнага дазваленьня.

Сыновец пакінуў мне двух слугаў, ці праўдзівей сябру і слугу; адзін быў запраўдны слуга, а другі быў пісарам у скарбніка. Я меў із сабою дарагі англіцкі тавар і ладне грошы. Наняў сабе гасподу ў ваднае Англічанкі, дзе было балей купцоў на гасподзе, некалькі Французаў, двух Італьянцаў і адзін Англічанін. Я пражыў тутака дзевяць месяцаў, думаючы, што мне рабіць.

Аднае раніцы прышоў да мяне мой сугасподнік, англіцкі купец, і сказаў мне: „Родзіч, сядзім тут—ваша з прычыны няшчаснага здарэньня, а я самахоць — у часьці сьвету вельмі далёкай ад нашае бацькаўшчыны; але мы ў краю, дзе можна дастаць шмат грошы таму, хто, як мы, знаецца на гандлю. Калі хочаце дадаці тысяча хунтаў да маіх

тысяча хунтаў, најмем сабе гэтта караб. Вы будзеце капітанам, а я буду купцом і зробім гандлёвае падарожжа ў Хіну. Увесь сьвет у руху; чаму-ж бы мы агіляліся?"



Места ў Індыјі.

Пропозыцыя гэтая мне вельмі падабалася. Я, праўда, ня быў купцом, але затое быў прыродным падарожнікам; кожная пропозыцыя мне здавалася добрај, калі можна было пабачыць часьць сьвету, каторај дагэтуль ня відзеў. Але прајшоў якісь час, пакуль мы знајшлі адпаведны караб, а як быў караб, ня лёгка было наняць англіцкіх плаўбітоў, гэта значыцца толькі, колькі было трэба дзеля нагляду над згоджанымі мясцовымі плаўбітамі. Па якімсь часе дасталі мы штырніка, старшага

і машыністага, -усіх Англічанаў; галяндзкага цесьлю і трох чалавекаў да пярэдняга стацьцявіка. Мы спадзяваліся, што зь їмі зьмяркуемся. Іншыя людзі былі індускімі плаўбітамі.

## РАЗЬДЗЕЛ VI.

# ПАДАРОЖЖА ПЕРАЗЬ ХІНУ.

Як усё было гатова, мы распусьцілі вятрылы і вельмі ўдачна гандлявалі некалькі месяцаў. Плавалі мы з Бэнгалю на Суматру, адтуль у Сыям і назад у Бэнгаль; потым паміж Манілямі, уверх пратокай Малацкай у Камбодыю, адтуль далей у Тонкін і ўдоўж хінскага ўзьбярэжжа.

Як мы былі воддаль ад хінскага ўзьбярэжжа а на шырыні каля 30⁰, зьявіўся да нас на палубу партугальскі штырнік і запрапанаваў нам сваю службу, на што мы згадзіліся. Ён аказаўся вельмі карысным а гэтулькі меў знацьця сьвету, што як мы прыплылі ў Хіну і прадалі свой караб, запрапонавалі яму, што яго возьмем із сабой у дарогу караванам пераз Азыю і што за яго заплацім выдаткі ажно ў Маскву або, калі хоча, аж у Англію. Ён гаманіў мовай тамашняга краю і быў нам карысным як перакладчык пры нашых гандлех, каторыя мы, мой сябрук і я, мелі весьці і далей на гэтай даўгой дарозе. Мы маніліся ехаць ізь Хіны ажно да Белага мора або, начай, на Маскву.

Штырнік надзвычайна ўсьцешыўся з нашае пропозыцыі і заявіў, што паехаў-бы з намі на край сьвету. Дык мы прыгатаваліся ў дарогу. Прайшло траха чатыры месяцы, пакуль былі гатовы ўсі купцы, што меліся прылучыцца да каравану. Я паехаў тымчасам у Нанкін і купіў там дзевяцьдзесят кавалкаў чырвонага дамашху і каля

дзьвесьце кавалкаў далікатнага шоўку, некаторыя пратыканыя золатам. Апрача таго, мелі мы, мој сябрук і я, вялікае мноства шоўку сырога, далікатнага корту, а на трох вярблюдох накрат мушкатовых гарэхаў; усяго мелі мы ў свајім караване дваццаць шэсьць вярблюдоў і канёў.

Караван быў вельмі вялікі — на колькі памятую, было тут прынамся 300—400 конеў і 120 добра ўзброеных чалавекаў; бо на гэткія караваны часта нападаюць Татары. Каля шэсьцьдзесяцёх сяброў каравану былі купцы або жыхары з Масквы; мы асабліва былі радыя, што было тутака ј пяцёх Шкотаў, людзёў у гандлю вельмі ўмелых.

Мы ехалі каля аднае пары, як павадыры, каторых было пяцёх, згукалі падарожных на вялікую нараду. Кожны з нас цяперака даў азначаную суму грошы на неабходныя выдаткі, як купля аброку, најмо коні, плата павадыром і да г. пад. Павадыры парајілі, каб нас усіх арганізаваць, каб быў камандзер і ахвіцэры і далі нам умоўнае слова камандаваньня на прыпадак нападу. Нам трэ' было адмяняцца ўсім пры камандаваньню; хто-бы адхінуўся ў бок або астаўся ззаду, меў плаціць кару. Мы прызнавалі, што гэт'кі парадак быў канечне патрэбны.

Гэтая часьць Хіны густа заселена, ёсьць поўна ганчароў і людзёў, што выробляюць гліну на парцаляну. Дарогај запропанаваў нам наш партугальскі штырнік, што пакажа нам штось, чаго нельга відзець у цэлым сьвеце. Мне было цікава, што гэта магло-б быць. Ён сказаў мне, напасьледак, што гэта панскі дом, пастаўлены ўвесь із парцаляны, і што ў јім жыве сям'я з трыццацёх чалавекаў.

Як мы даехалі да яго, я відзеў, што гэта быў дом із ценкіх дашчок і мешаніны вапны

з глінај, якую ўжываюць на парцаляну. Знадворку быў дом гладжаны і выглядаў вельмі хораша— быў бліскуча белы ј прыбраны сінімі малюнкамі. Усе сьцены ў сярэдзіне былі абкладаныя палеными ј памаляванымі цэглямі з најдалікатнејшае парцаляны а прыборы на јіх былі надзвычајна харошыя з розных пярэстых хварбаў, прамешаных золатам. Падлога, столі і ўвесь тынк у цэлым доме былі з тае-ж гліны, а страха была пакрыта бліскучај і чорнај дахоўкаю. Гэта быў запраўды дом із парцаляны. Я-б хацеў астацца тут на некалькі дзён, каб ляпеј яго разгледзіць.



Дом із парцаляны.

Выраб парцаляны ёсьць аднэј із асаблівасьцеў Хіны, і, праўду кажучы, Хінцы јім адзначаюцца; але яшчэ балеј, мусіць, адзначаюцца

апавяданьнямі аб гэтым. Адзін Хінец апавядаў мне аб мастаку, што змајстраваў караб із стацьцявікамі, вятрыламі ј канатамі — усё чыста з парцаляны, а быў, кажа, караб такі вялікі, што ў јім утоўпілася пяцьдзесят чалавекаў. Але не сказаў ён мне, ці спусьціў мајстра свој караб на ваду і паплыў на јім у Японію. Я ськеміў, што ён маніць, дык, засьміяўшыся, не адказаў яму нічога.

За два дні мы ехалі каля вялікае хінскае сьцяны, пастаўленај дзеля абароны ад Татароў. Гэта вялізманны мур; цягнецца без канца пераз горы ј узгоркі, дзе скалы непрыступныя і бяздоньні такія, што јіх-бы жадны непрыяцель ня мог-бы перајсьці, а калі-б мог, дык і жадная сьцяна яму не перашкодзіла-б. Апавядалі нам, што сьцяна ўдаўжкі мае каля тысяча англіцкіх мілеў, але, ня лічачы водхінаў сьцяны ў бакі, зямля нацянькі мае толькі пяцьсот мілеў удаўжкі. Увышкі яна мае каля чатырох сажнеў а ў некаторых мясцох гэткая-ж і таўсьціня яе.

Я задзержыўся прыблізна на гадзіну (гэтулькі часу пераходзіў наш караван навокал брамы), каб разгледзіць яе з усіх бакоў, наколькі гэта было магчыма. Павадыр, каторы яе выхваляў як дзіва сьвету, вельмі цікавіўся, што я аб ёј думаю. Я сказаў яму, што гэта вельмі добрая абарона ад Татароў. Ён не зразумеў значэньня мајіх словаў і прыняў гэта за пахвалу. Стары штырнік засьміяўся. „О, спадару Англіјцу", сказаў ён, „гукаеце хітра — што яму здаецца белым і ясным, мне ёсьць чорным і цьмяным. Кажаце яму, што гэтая сьцяна добрая абарона ад Татароў, а мне гэтым кажаце, што яна на ніштојіншае ня годзіцца, як толькі на абарону ад Татароў. Разумею вас, спадару Англіјцу, разумею; але спадар Хінец разумее вас пасвојму.

„Ну“, сказаў я, „думаеце, што яна ўстоіла-б проці гарматаў? Ці-ж не разьбілі-б яе выстраламі за дзесяць дзён або не ўзарвалі-б порахам із-подам?“



Робінзон перад хінскім мурам.

„Але, але“, сказаў ён, „ведама!“

Хінскі павадыр цікавіўся, што я сказаў штырніку. Я дазволіў гэтаму, каб сказаў яму за некалькі дзён, як мы выходзілі зь хінскае зямлі і павадыр зьбіраўся нас пакінуць. Як ён даведаўся, што я сказаў, маўчаў далеј усю рэшту дарогі, і ня чулі мы ўжо нічога аб хінскај магутнасьці і вялікасьці.

Мінуўшы гэтую вялікую дрэнь, мы пабачылі, што насяленьне ўжо рэдшае і жыве ў большасьці

ў гарадох (умацаваных мястох), бо нападаюць і рабуюць Татары, разьяжджаючы вялікімі адзьдзеламі, ■ супакојнае насяленьне не абаранілася-б ад јіх у вадкрытых краёх. Я бачыў цяперака, што трэба, каб наш караван ішоў шчытна разам; бо мы відзелі, што воддаль ад нас бадзяецца некалькі тоўпаў Татароў. Як мы пасьля маглі јіх разгледзіць бліжэј, зьдзівіўся я, каб хінскае гасударства магло быці зваявана гэтымі агіднымі бадзякамі. Гэта былі адно дзікія горды, няўдзержаваныя ў жадным парадку, нязнаючыя жаднае дысцыпліны або ваеннае арганізацыјі.

Першага дня, як мы абачылі Татароў, дазволіў нам наш павадыр пагнацца за стадам дзікіх авец. Гэтыя зьвяраты вельмі борздыя, я ніколі ня відзеў такіх авец. Было јіх 30—40 у стадзе.

Гонячыся за авечкамі, мы сустрэліся прыпадкам із саракма Татарамі. Мы ня ведалі, ці яны таксама гоняцца за баранамі, як мы, альбо цікуюць на што јіншае; але як толькі яны нас зглеадзілі, затрубіў адзін ізь јіх у якісь рог. Не прајшло ј дзесяцёх часінаў зьявілася ў далячыні каля аднае мілі јіншая таўпа, чалавекаў 40—50; але мы борзда зь јімі справіліся.

Быў сярод нас адзін із шкоцкіх купцоў із Масквы. Як толькі пачуў ён гук рогу, сказаў нам, каб ня трацілі часу, што нам не астаецца нічога јіншага, як напасьці на јіх. Упарадчыўшы нас, паехаў ён проста проці Татароў, а мы за јім. Яны паглядзелі на нас, стоючы таўпою бяз жаднага парадку; але як толькі пабачылі, што едзем на јіх, выстралілі стрэламі, каторыя на шчасьце ў нас ня лучылі, упаўшы на зямлю перад намі.

Мы як га суняліся ј паслалі јім за јіхнія дзеравяныя стрэлы сваё алавяныя кулі. Выстраліўшы, борзда пусьціліся на јіх. Шкоцкі купец дзяржаўся

так мужне і з такој сьцюдзёнаю адвагаю, што я ніколі ня відзеў чалавека здальнејшага каман-даваць у біцьве. Як толькі мы јіх дагналі, стра-лялі ў јіх ізь леварвэраў і секлі шаблямі; але яны ўцякалі ў највялікшым перапудзе. За некалькі ча-сінаў усё скончылася. У нас ня было ніводнага забітага або раненага, мелі мы адно няпр ем-насьць, што тымчасам разьбегліся авечкі, за ка-торымі гналіся. А другая таўпа Татароў так спа-лохалася груку з нашых стрэльбаў, што ўцякла — яшчэ здалеку.

Мы падарожнічалі яшчэ каля месяца, најба-лej каля ўмацаваных вёскаў, што былі дагэтуль пад уладаю хінскага цэсара. Татарскія горды яш-чэ нападалі на нас некалькі разоў, але не зрабілі нам вялікшај шкоды; яны не маглі ўстојіць проці нашага страляньня.

РАЗЬДЗЕЛ VII.

## ЕДЗЕМ ПЕРАЗ МАСКОЎСКУЮ ТАТАРЫЮ.

Было яшчэ балеј як тысяча вёрстаў да Мас-квы; але 14 красавіка, перајшоўшы некалькі рэ-каў і дзьве страшныя пустыні (пераз адну зь јіх мы шаснанцаць дзён ехалі), мы апынуліся ля гра-ніцаў маскоўскага гаспадарства. Здаецца мне, што першая вёска ці гарадок (крэпасьць), належачы цару, зваўся Аргуна, на заходнім баку ракі гаго-ж назову.

Памалу і без перашкодаў ехалі мы далеј ад ракі Аргуны. Хоць у вусіх мястэчках і гарадкох, кудој мы ехалі, было војска ј вајводы Маскалі ј хрысьцяне, яле мясцовае насяленьне было па-ганскае, прыносіла жэртвы балваном, пакланяю-чыся сонцу, месяцу ј зоркам. З усіх паганаў,

з каторымі я калі стыкаўся, гэтыя былі найдзічэйшыя, хоць, мусіць, ня былі людаедамі.



Паставілі якогась чартоўскага балвана...

Мы пазналі розныя асаблівасьці гэтага краю, населенага Маскалямі і Татарамі. Гэта вялізманная і жудасная пустыня, пераз каторую нам трэ' было ехаці звыш дваццацёх дзён. У ваднэй із тамашніх вёсак мы мелі магчымасьць пазнаёміцца зь іїхнім спосабам жыцьця, каторы надта дзікі і агідлівы. Прыносілі ў той дзень вялікую жэртву і дзеля таго паставілі на пень якогась чартоўскага балвана, выразанага зь дзерава. Ён быў апранены ў брудную аўчынку, аберненую воўнай навонкі, на галаве меў высокую татарскую шапку, праз каторую выраслалі два рагі; хоць быў ён каля

васьмёх ступнеў увышкі, ня меў ног і наагул жаднае хвормы.

Гэты страшок стаяў на другім канцы вёскі; калі я падыјшоў бліжэј, абачыў тамака каля шаснанцацёх або семнанцацёх людзёў, лежачых ніцма каля гэтага гідкага кавалка дзерава. Як я падыјшоў блізка, яны ўскочылі, пачалі выць, як сабакі, і пабеглі адтуль, быццам я јіх патрывожыў. Ля ўходу ў блізкую хату, пакрытую сухімі каровімі ј авечымі скурамі, стаялі тры чалавекі з даўгімі нажамі ў руках а пасярод будана ляжалі тры забітыя авечкі і малады бычок. Былі гэта, здаецца, жэртвы прыношаныя дзеравянаму балвану, гэныя тры чалавекі былі духоўнікі, а семнанцацёх, у пяску ляжачы'х, былі людзі, што прынесьлі жэртвы і цяпер маліліся калодзе.

Прызнаюся, што як жыву, нішто мяне так не раззлавала, як гэтае дурное ј дзікое маленьне јіхняе чарту. У злосьці я пад'ехаў да агіднага балвана і, выцяўшы шабляј па шапцы на ягонај галаве, расьсек галаву напалам; адзін із нашых людзёў, што быў за мној, схапіў за аўчыну, каторај быў прыкрыты агіда, і хацеў яе сьцягнуць, але раптам па сяле разьлёгся страшны крык і дзьвесьце ці трыста Татароў закрычэла мне каля самых вушоў. Я быў рад, што мог уцячы, бо шмат хто зь јіх меў лукі ј стрэлы; але ад гэтае часіны я пастанавіў, што яшчэ да јіх даведаюся.

Наш караван супачываў тры ночы ў блізкім месьце, каля чатырох мілеў адтуль. Я выказаў сваю думку вышменаванаму шкоцкаму купцу. Сказаў яму аб тым, што відзеў, і аб сваім абурэньню пры думцы, каб людзкая прырода магла быці такој выроднај, а так сама аб тым, што я пастанавіў паехаць туды і зьністожыць гэнага гідкага балвана. Ён пахваліў маё маненьне

і назаўтрае ўночы выбраліся мы, ён і я, яшчэ адзін мужны Шкот і мој слуга патајно зь места. Узялі із сабою пораху, сьпірытусу і розныя јіншыя палкія матэрыјі, якія толькі маглі дастаць, а такжа судзіну зь дзёгцям.

Каля адзінанцацёх гадзінаў прыехалі мы да месца, дзе стаяў балван. Навокал было ціха.

Најпервеј мы памазалі яго ўсяго дзёгцям і мешанкај лою із серкаю; далеј яму ў вочы, вушы ј рот насыпалі пораху; наўкола паўтыкалі јіншыя палкія матэрыјі і ўсё запалілі.

Мы асталіся блізка, гледзячы каля чэцьверці гадзіны на сваю работу, ажно пакуль агонь дајшоў да пораху ў ваччу, у роце ј вушшу балвана і порах выбухнуў; відзячы, што балван разарваўся ј зваліўся і што ён чыста згарыць, мы вярнуліся ў места і пајшлі спаць.

Але гэтым справа ня скончылася; назаўтрае ледзь мы нараніцы ўсталі, зьявілася перад мескімі брамамі вялікая таўпа народу і дамагалася ад маскоўскага вајводы кары за зьнявагу свајіх духоўнікаў і спаленьне вялікага Хам-Хі-Таунга.

Жыхары места вельмі спалохаліся, бо Татароў было траха трыццаць тысячаў. Маскоўскі вајвода паслаў да јіх паслоў, каб јіх супакојіць, упэўняючы јіх, што аб нічым ня ведае (гэта была праўда), але што калі-б яму сказалі, хто гэта зрабіў, дык ён пакараў-бы віньнікаў. Яны адказалі яму горда, што ўвесь крај моліцца да вялікага Хам-Хі-Таунга, каторы жыве ў сонцу, і што жадны сьмяротнік, апрача якіх хрысьцянскіх нявернікаў, не адважыўся-б зьдзекавацца над абразом ягоным.

Вајвода, ня хочучы даваць прычыны да вајны (загадаў яму цар, каб Татароў не дражніў), супакояваў јіх, як мага. Напасьледак, ён јім сказаў,

што нараніцы выехаў адтуль які • караван у кірунку Маскоўшчыны і што хіба хто зь іїх зрабіў зьнявагу; калі яны згаджаюцца, дык ён пашле да нас сваіх людзёў, каб справу высачылі. Гэта іїх крыху супакоіла, а вајвода паслаў як га пасланца, каб наказаць нам аб тым, што сталася, і параіць нам, вінны мы ці не, каб најбаржджэј выяжджалі адтуль; што тымчасам ён падзяржыць чакаючых Татароў датуль, пакуль будзе магчыма.

Гэта была вялікая ласка з боку вајводы, хоць наш павадыр нічагусенькі ня ведаў, паслухаў караван рады вајводы, і дзьве пары ехалі мы іяк најбаржджэј.

Трэццяга дня, як мы разлажылі табар на вельмі адпаведным месцу ў пустыні, высыпаліся на нас Татары, паслаўшы наперад да нас трох паслоў, дамагаючыся тых людзёў, што зьняважылі іхніх духоўнікаў і спалілі вялікага Хам-Хі-Таунга; як іїх таксама спаляць, дык ад'едуць адгэтуль, а калі не, дык усіх нас зьністожаць.

Нашыя людзі вельмі зьлякаліся гэтага пасолства, але ніхто не згаджаўся на жаданьне татарскае. Гарда стаяла і глядзела часіну на нас, потым зараўла і выстраліла мноства стрэлаў; але мы былі за нашымі рэчмі, дык ніхто з нас ня быў ранены.

Раптам падышоў да павадыра адзін казак із каравану і сказаў: „Пашлю іїх усіх у Шыбејлку“. Гэта было места на чатыры ці пяць дзён дарогі адтуль управа і крыху ззаду ад нас. Казак узяў лук і стрэлы і паехаў ад нас, даючы шмат кругу. Ён прыехаў да задніх сьцягоў (радоў) татарскага војска, быццам адумысьля выехаўшы зь места, каторае мы пакінулі. Ён наказаваў іім, што няверннікі высачаны і што паехалі з караванам у Шыбејлку, каб тамака спаліць іншага

вялікага балвана. Пасьля гэтага Татары паехалі і за якія тры гадзіны шчэзьлі нам зусім із вачоў. Ніколі мы ўжо аб jіх не даведаліся, паехалі яны ў Шыбеjлку ці не.

Пасьля гэтага мы падарожнічалі бяз дальшых прылукаў каля месяца ці шасьцёх тыднеў страшнымі пустынямі j краямі, заселенымі наjдзічэjшымі людзьмі. Я думаў, што чым бліжэj будзем да Эўропы, тым цывілізаванеjшыя краjі знаjдзем; але мыліўся. Былі мы цяперака ў народу Тунгузаў; хоць яны былі менеj небясьпечнымі, як Татары, бо былі пад уладаю Маскоўцаў, але жаднага народу на сьвеце няма такога дзікога і з такоj дзівоснаj рэлігіяj, як яны. Адзяюцца ў зьвярыныя скуры, каторымі пакрыты і jіхнія дамы. Мужчыны ня розьняцца ад жанчынаў ані грубымі тварамі ані вопраткаj. Узімку, як зямля пакрыецца сьнегам, жывуць яны ў падземных скляпох, злучаных ходамі. Калі мелі Татары на ўсё сяло аднаго Хам-Хі-Таунга, былі тут бажкі ў кожнаj хаце і ў кожнаj пячуры.

Адгэнуль ажно да ракі Об праходзілі мы перазь дзікі, няўроблены краj, з рэдкім насяленьням і благоj адміністрацыяj, але краj прыемны, ураджаjны j харошы. Жыхары, каторых мы тутака знаjшлі, усе пагане, з выняткам тых, што сюды высланы з Маскоўшчыны, бо сюды высылаюць маскоўскіх злачынцаў, каторыя не засуджоны на сьмерць. Jім траха немагчыма вярнуцца калі адгэтуль.

РАЗЬДЗЕЛ VIII.

## ПЕРАЗІМАВАЎШЫ Ў СІБІРЫ, ВАРОЧАЮСЯ ДАМОЎ.

Мы былі сем месяцаў у дарозе, калі даехал да Табольска, галоўнага места ў Сібіры. Цяпер

борзда надыходзіла зіма. Нам сказалі, што Маскоўцы ўзімку падарожнічаюць у санех, бо сьнегу најдзе так глыбака, што ён пакрые ўзгоркі, даліны, рэкі ј вазёры і зробе зь јіх роўнядзь, каторая потым, умерзшы, бывае цьвярдая, як камень. Але я ехаў у Англію, а не ў Маскву, і калі-б паехаў цяпер із караванам, мусіў-бы яго пакінуць на ладную часьць дарогі. Я мусіў-бы адхінуцца ў кірунку да Гданску на Балтыцкім мору, г. зн., праехаўшы Маскоўшчыну, трэ' было-б ехаці перазь Літву*), падаўнејшаму Крывію**) (перазь месты — Смаленск, Воршу ј Вільню), альбо да Архангельску. Было-б неразумна выпраўляцца ў гэтыя дзьве падарожжа ўзімку. Дык я пастанавіў астацца ў Сібіры, на шырыні 60° ажно да вясны. У Табольску я меў запэўнены дзьве рэчы — мноства еміны, што даваў крај, і цёплую гасподу з мноствам апалу. Я жыў цяперака запраўды ў зусім накшым клімаце, як на свајім дарагім востраве! Меў на сабе тры цёллыя камізэлькі, а на јіх даўгую вопратку ажно да зямлі і ўсё падбіванае касматаю скураю. Я наняў сабе гасподу ў добрым доме ў месьце, атаплянаю вялікімі печмі.

Цэлых восем месяцаў, каторыя я тут жыў, была хмарная, страшная зіма. Мароз быў такі вялікі, што я ня мог высунуцца за дзьверы бяз маскі з касмацінај на твару. Цэлых тры месяцы дзень быў пяць, најбалеј шэсьць гадзін у пару. Нашыя коні былі ў падземных стајнех, а што тычыцца нашых слуг, дык напару нам трэ' было рупіцца аб јіхніх палцах на нагах і руках, бо јінакш яны адмерзьлі-б і адваліліся-б.

---

*) Даўнеј гэтак звалася Беларусь.
**) Яшчэ ранеј гэтак звалася Беларусь.

У маі мы зладзілі свае рэчы і паехалі далей на заход.

Была гэта даўгая і цяжкая дарога, але, напасьледак, 18 ліпня прыехалі мы бясьпечне і здаровыя ў Архангельск, адкуль я паплыў да вусьця Лабы*).

Тут вельмі добра прадаў я із сваім сябрам свой накрат. Мая дзель раўнялася каля 3500 хунтаў.



Робінзон у старасьці жыве дома.

Прабыўшы чатыры месяцы ў Гамбурзе, я сеў на караб, плывучы ў Гаагу, і прыехаў у Лёндон 10 студня 1705 г., ня быўшы ў Англіі цэлых дзесяць год. А цяперака, дажыўшы семдзесят двух

*) Эльбы.

год свајго жыцьця бесканечнае размавітасьці, навучыўся я знаць цану супачынку; якое гэта шчасьце, калі можам дні свае скончыці ў супакою і гатавацца ў падарожжа на тој сьвет.

Канец часьці другое.



## ЗЬМЕСТ.



---

### Згледжаныя абмылкі ў друку.

| Ёсьць: | Мае быць: | Балонка: | Верш: |
|---|---|---|---|
| чарод | чарада | 5 | 7 зьнізу |
| ўаажне | ўважне | 13 | 1 " |
| паехаўшых | паехаўшы | 9 | 10 " |
| кіраваці лодкаю | езьдзіць на лодцы | 9 | 14 " |

## СЛОВА АД ПЕРАКЛАДЧЫКА.

Беларуская або крывіцкая мова (язык) паводле сваjіх гуковых і хвормавых асаблівасьцеў дзеліцца на два вялікія нарэччы. Нягледзячы на гэта, у словах уся беларуская мова вельмі суцэльная, што сьведча аб даўгіх вякох агульнага культурнага жыцьця беларускага народу. Але і ў гэтаj суцэльнасьці ё некаторыя мясцовыя розьніцы; вялікшая розьніца бывае ад чужых уплываў на народную або літаратурную беларускую мову альбо ад таго, што інтэлігенцыя, католая вучылася ў чужых школах, часта недаволі ўмее мову сваjіх бацькоў і дзядоў.

Дзеля таго і ў гэтаj кніжцы могуць знаjсьціся словы недаволі зразумелыя некаторым Беларусам або такія, аб якіх могуць зьявіцца тыя ці jіншыя неўгрунтаваныя сумлеўкі, ці то падзеля jіх не агульнага пашырэньня ў сучаснаj народнаj мове, ці рэдшаму ўжываньню ў беларускаj мове літаратурнаj або яшчэ дзеля якіх прычынаў. З гэтага выявілася патрэба выясьніць некаторыя словы, ужытыя ў гэтаj кніжцы.

АБАЧЫЦЬ. Кажацца *абачыць* і *пабачыць*, але ніколі ня можна казаць *убачыць*, апошняе пад уплывам маскоўскага у в и д е т ь. У кнізе „Аль-Кітаб", маючаj некалькі сот балонкаў і напісанаj у першаj палове XVI ст. ў чыстаj, народнаj беларускаj мове, ні разу ня знойдзена *убачыць*, але

заўсёды *абачыць* ці *пабачыць*. Але як *відзець* так і *бачыць* казаць можна. Апрача таго, з крыху јіншымі адценкамі ўжываюцца словы *ўгледзіць* і *згледзіць*.

АДНОЈЧЫ—аднаго разу.

АДЧЫНІЦЬможна ня толькі вокны і дзьверы, але таксама вочы, вусны, кнігу. Што *адчыняюць*, тое такжа *зачыняюць* і *рашчыняюць*. Стол настольнікам *засьцілаюць*, ложак посьцілкај так сама засьцілаюць, але коўдрај *накрываемся*.

АСЬМІНАНЦАЦЬ правільнеј, чымся *восемнанцаць*. Апрача таго, у словах—адзінанцаць, двананцаць, трынанцаць, чатырнанцаць, пятнанцаць, шаснанцаць, семнанцаць, асьмінанцаць, дзевятнанцаць, — просьле складу *на* ёсьць *н*; гэта чыстая беларуская асаблівасьць і яе трэба захоўваць.

АТУМЕКАМІ ісьці—ісьці ня простаю дарогаю, але абходзіць рознымі пабочнымі дарогамі.

АХВОТА ДА ЯДЫ — выражэньне народнае, між јіншым запісана мною ў Куцевічах Ашмянскага пав.; ляпеј гэтак казаць чыста пабеларуску, чымся ўжываць чужое *апэт* (запісана мноі у Арлянятах Ашмян. пав.) або — яшчэ гарэј — *апэтыт*.

АШАЛАПУЦІЦЬ—так выцяць, каб выцяты на якісь час страціў памяць, абяспамяціць.

БІТВА, націск у гэтым слове на канцы.,

БРАЗЫЛЯ, у чужых словах замест *-лія -цыя, нія* і г. д. беларуская мова мае *-ля, -ца, -ня* і г.д. (Юля, Бразыля, плянтаца, губэрня, Алімпа, Фанася, Настася)..

БУДАН, а—шалаш.

БЫЦЬЦЁ—1) існаваньне, 2) прысутнасьць.

ВАЛЕЈ, блізкое паводле значэньня да „ляпеј, ужываецца, каб паказаць, што чагось мы балеј *хочам*, чымся јіншага: Прыклад: *хај жанкі жнуць, а мы валеј пакосім.*

ВАР, у—1) вада, што варыцца, кіпячая вада; 2) вельмі гарачая пагода. У кніжцы ўжыта ў другім значэньню.

ВАРЫСТАЯ ХАТА—кухня.

ВАША — скарочанае з даўнейшага „ваша мiласьць“. Кажацца *ваша* і *вашаць* у адносінах да мужчыны, а *ваша* і *вашэця* ў адносінах да жанчыны. Скланяецца гэтак: *наз.* ваша (вашаць), ваша (вашэця), *родн.* вяшэця (муж. род), вашэці (жан. р.), *дав.* вашэцю, вашэці, *вінав.* вашэця, вашэцю, *творн.* вашэцям, вашэцяj, *месн.* вашэцю, вашэці. Гэта ветлы зварот да аднаго чалавека замест чужога „вы“ ў гэтым палажэньню.

ВОБУЈ, ю, усё, у што абуваемся—боты, чаравікі, камашы, галёшы, сьнежнікі і г. д.

ВОЈСТРЫ. Гэтае слова ляпеј ужываць зь ј, каторае тут паводле тае-ж беларускае асаблівасьці (зьяўляецца паміж *о*, *а*, *е* і зубнымі), як і ў словах — гаjсаць, крэјда, Жојдзішкі, Бејніца, Бяјнюны і јінш.).

ВОНКАХ, прыслоўе, значыць „не ў сярэдзіне“, а на двары; у адносінах да дому значыць, што хтось ці штось ё на панадворку, на вуліцы ці ў полю; у адносінах да вострава значыць, што не на востраве, у адносінах да гаспадарства значыць „заграніцаj“. Ужываецца ў цяперашняј і ўжывалася ў староj беларускаj мове (паміж јіншым ужываў Скарына).

ВЫТНУЦЬ,-ЦА, ВЫЦЯЦЬ,-ЦА—удырыць,-ца. Адгэтуль назоўнае јімя ёсьць *выцень*, родн. *вытня*, апошняе знаходзім часта ў зборніках Нікіфароўскага.

ВЯТРЫЛА, а — парус.

ГАЛЕЧА, ы, агульн. роду—вельмі бедны (ая).

ГАЛІТА, ы, вялікая беднасьць, убоства.

ГАЛЬЛІВЫ — тој, што *галіцца*, прагавіты; *галіцца*—вельмі хацець чаго.

ГАМАНІЦЬ, ю—гутарыць, гукаць; *гамана, гамонка* — гутарка, гаворка; *гаманкі* — гутарлівы, гаваркі.

ГЭТЫ, ГЭНЫ — паказалвныя зајмёны; *гэты* ўжываецца ў адносінах да таго, што блізка (у прасторы, часе), *гэны* ў адносінах да таго, што далёка. Падобна ўжываюцца г э т к і—г э н к і, г э т а к і г э н а к, г э т т а — г э н а м, а д г э т у л ь — а д г э н у л ь, д а г э т у л ь — д а г э н у л ь. Ё яшчэ зајмя *тыј* або *тој*, каторае ўжываецца пры меншај азначанасьці паказаванага спакменю (прадмету) і бліжэј падыходзе да *гэны*, чымся да *гэты*.

ГРУД, у, зьмянш. *грудок, дка*—1) крыху вышшае месца на сенажаці, 2) грумада, таўпа, чарада, „гурток". У значэньню другім ужываецца ў нарoднај мове пачынаючы зь Дзісенскага пав. і далеј на ўсход ажно да Смаленшчыны. У літ. мову першы ўвёў М. Гарэцкі (Мсьціслаўшчына), падзьдзержыў Я. Пачопка (зь Дзісеншчыны.)

ГУКАЦЬ, аю — гаманіць, гутарыць; *гукнуць* — 1) паклікаць, 2) крыкнуць „гу, гу!"

ДАЛЕКАЗОР, а—прылада, пры помачы каторај можна далёка бачыць, „зорыць".

ДАНЯЦЬ—зрабіць „уражаньне", адгэтуль — *дајмо*—„уражаньне," як најмаць — најмо, зајмаць зајмо, прыјмаць—прыјмо; так сама будзе *пајмо* — „паняцьце" (агульны, абстрагаваны спакмень—прадмет); „уражаньне" — полёнізм.

ДВОЈЧЫ — два разы.

ДЗІВОСЫ — дзіўныя і адначасна сьмешныя рэчы, дзеяньні.

ДЗЯРЭУЕ, я — зборнае ад „дзерава"; скланяецца гэтак: род. дзярэўя, дав.—ю, він.—е тв. —ям, мес.—ю.

ДЫКЖЭ—адпавядае маск. „Именно", але ўжываецца не пры пералічэньню або менаваньню, але калі хочам што падчыркнуць. Запісана мною ў Крэўскај вол. Ашм. п.

ЕЖЫНА, ы—балеј-менеј прыгатаваная на яду *еміна* (сырыя прадукты) „*ежа*—тое самое, што *яда*.

ЖАНЧЫНА, ы — чалавек жаноцкага полу, у гэтым-жа значэньню ўжываецца яшчэ слова *жонка* (мн. л. — *жанкі*), апошняе слова мае яшчэ значэньне чыејсь жонкі: Замужняя жанчына завецца „*замужка*", маладая замужка будзе „*маладзіца*" альбо „*маладуха*".

ЖАРАЛО, *а* — Тая дзіра, дзе вада выцякае із зямлі, завецца жаралом; малое жарало будзе—*жаралцо*. Калі жарало ўжо такое ўвелькі, што зь яго можна чэрпаць ваду, дык яно будзе звацца „*узнор*"; калі вада ў јім выцякае з-пад зямлі, або „*крыніца*", калі вада выцякае із скалы. Аб ужываньню ј адрозьненьню словаў „узнор" і „крыніца" даведаваемся, паміж јіншым, із зборніку Нікіфароўскага. *Жарало* ўжываецца таксама ў значэньню пераносным: кажам аб жаролах навуковых, куплявых і јінш.

ЖАХ, у — војстры ј вялікі страх адначасна, *зжахнуцца*—зьнячэўку вельмі спалохацца.

ЗА, прыјмя, ужываецца пры прыраўнаньню зь вінавальным склонам, прыкл.: В і н ц у л ь л е п ш ы за В а ј ц ю л я; з і м о в ы с ь н е г б е л ь ш ы з а в е с н а в ы. Ужываньня пры прыраўнаньню прыјмя *ад* ёсьць полёнізмам. Апрача таго прыјмя *за* ўжываецца пры дзеяслове *вучыць-ца*: вучыць-ца за адваката, вучыцеля, дохтара і г. д.

ЗАГАНА, ы — які-колечы моральны дэфэкт. прыкл, хтось непасьцівы, няпраўдзівы, пры слове не стаіць, нясумленны і да г. п.—усё гэта заганы

людзкія. Калі чагось не стае матар'яльнага (збожжа, хлеба, кніжак, зямлі і да г. пад.), дык кажуць „не стае", „нястача". Фізычны дэфэкт выражаецца яшчэ словам „ганьба"; прыкл.: Дзяцюк ня мае жаднае ганьбы, чаму-ж бы яго не ўзялі ў маскалі; але наагул „ганьба" значыць „вялікі стыд" ад якогась вельмі нягоднага праступку (напр.: хтось зрадзіў свой народ, чураецца роднае мовы).

ЗАЦЕМІЦЬ—зазначыць. Зацем сабе на носе. Зацемка—„увага" (у кніжцы і г.д.).

ЗАЦНЫ—важны і дарагі нам адначасна.

ЗГАДЗІЦЬ-ца, ДЖУ, —ДЖУСЯ. Ужываецца ў значэньню: 1) згадзіцца на чыюсь пропозыцу, просьбу. Згадзіў наймітанагод. Дзяўчына згадзілася на службу. 2) Пагадзіцца — „памірыцца".

ЗДАВАЦЬ ЛІЧБУ, *здаць лічбу*. Гэтыя словы шырака ўжываюцца ў старой беларускай літаратуры замест дзіўнога барбарызму (злучаны полёнізм із маскалізмам) — „даць справаздачу". Лічбы здаваньне — „справаздача".

ЗУСЯРЭДЗІЦЦА,джуся (слова творанае) — забраць у кучу, у сярэдзіну ўвагу, каб штось ляпей разабраць.

ЗЬВЕРХ, у. Гэтае чыста беларускае слова знойдзена ў „Аль-Кітабе", значыць тое, што ўзядзенае з польскае мовы „паверхня".

ЗЬНЕМАРАШЧАНЫ. Немарасьць (ад няма радасьці)—вялікі боль душы ад гора і смутку; адгэтуль немарасьціцца — смуціцца вельмі, балець душою; зьнемарашчаны—засмучоны, збалелы душою (—маск. огорченный, польск. змартвёны).

ЗЯЛЕЗЬЗЕ, я зборнае імя—кайданы.

ІЗ. Калі прыймя *з* стаіць перад сыкавым

гукамі (з, с, ж, ш) наступнога слова (із сабој, ізь зямлі) або пасьля сугуку (зычнага) пярэдняга слова, дык да *з* дадаецца *і* (прадаў дом із хлявом). Прыјмя *з* (*із*) перад мяккімі сугукамі пярэдняга слова зьмякчаецца (зь Вільні, зыјшоў і-зь неба).

КАРАБ. У старыну гэтае слова мела *ль* на канцы (карабль), але з часам на канцы слова па вусьняных (б, ў і јінш.) у беларускај мове *ль* адпала (Браслаў, Імсьціслаў).

КАРАГОД, у—1) гулі, калі гуляючыя бяруцца за рукі, творачы кола, 2) таўпа, чарада людзёў.

КАСМАТАЯ СКУРА—скура касматых зьвяроў (авечкі, зајца, труса, ліса, медзьвядзя, ваўка, сабаля і јінш.); слова гэтае шырака ўжываецца ў даўнејшај беларускај літаратуры. Ад „касматая" (скура) перакладчыкам утварона „касмаціна".

КАЯТА, ы. Калі чалавек каецца за грахі, за свае ліхія ўчынкі, дык гэта ёсьць каята; слова гэтае шырака ўжываецца ў „Аль-Кітабе".

КОНЬНІК, а—1) едучы конна; можна ехаць „конна" ня толькі на кані, але і на јіншај жывёле (слані, вярблюдзе і јінш.); 2) у даўнејшај нашај літаратуры гэтак яшчэ завуць рыцара.

ЛАДНЕ, прысл. даволі шмат, „значне"; ладны—даволі вялікі, „значны". „Значны", „значне"—полёнізмы.

ЛАСОНІК, а—смачная яда, „прысмак" (апошняе полёнізм), ужываецца шырака ў Віцебшчыне, што падае Нікіфароўскі ў сваім зборніку. Ласун, а, муж. р. і ласуха, і жан. р.—ласы(ая) на ласонікі.

ЛУЧЫЦЬ (націск на у)—папасьці. Лучыў палцам у неба. Лучыць (націск на *ы*)—лучыць адно з адным, прыкл. можна лучыць авечкі розных гаспадароў. Сконч. злучыць, адлучыць, вылучыць.

ЛУСТА, ы — шырокі ј даўгі, але ценкаваты кавал хлеба, адрэзаны ад бохана.

ЛЬГА, прысл:—магчыма.

МАГАМЭД. Гэта јімя з *д* ўжывалі беларускія мусульмане, як відаць із іх јіхняј беларускај літаратуры. Ад сваіх мусульман пазнаёміліся згэтым словам і јіншыя Беларусы, дык, ведама, што яго маем ужываць з *д* на канцы.

МЕРНЫ—невялікі ј немалы—сярэдні, слова чыста беларускае, тымчасам „умеркаваны"—полёнізм, „мяркоўны"—перакручаны полёнізм.

МОРСКІ, ага, націск у гэтым слове на *о*, так сама, як і ў „н о ч н ы".

МІЖ СОБКУ—паміж сабој, слова чыста белар., часьцеј кажацца ў Магілеўшчыне, дзеля таго так часта яго сустракаем у М. Гарэцкага.

НАВЫТЫРЫЦЦА, - уся—пры помачы прахтыкі навучыцца штось рабіць; пашыранае ў Віцебшчыне, як ведама із зборніку Нікіфароўскага.

НАКРАТАЦЬ, аю—накласьці чым воз, вагон і јінш., адгэтуль „н а к р а т" = маск. „груз."

НАКШЫ—јіншы паводле якасьці, гэтак добра выясьніў гэтае слова даўно Е. Карскі ў „Беларусах." *ї* на пачатку гэтага слова няма з тае прычыны, дзеля чаго яго няма і ў словах — меці, голка, граць і јінш.

НЭГРА, ы. Словы, маючыя перад канчаткам *р* з папярэднім сугукам, звычајна канчаюцца на *а*: ш в а г р а, с я б р а, з у б р а, т ы г р а. М а ю ц ь *а* на канцы такжа словы—Карпа, Марка.

ПАГОДА, ы — надвор'е, калі няма дажджу, сьнегу і пад, калі-ж јідзе дождж ці што јіншае, дык будзе н я г о д а.

ПАДАРОЖЖА, а, гэтае слова ніякага роду, кажацца гэта, паміж јіншым, у *Н*аваградчыне.

ПАЗОРНЫ — харошы з выгляду, п а з о р — вонкавае хараство.

ПАЛОХАЦЦА, аюся. Людзі палохаюцца, а птушкі j жывёла пужаюцца, пудзяцца.

ПАМОГА, і—матар'яльная помач, субсыдыя. „Дапамога"—полёнізм.

ПАРА—1) прысл.—пара дамоў, 2) jімя наз.—а) пара году, эпоха, б) дзень і ноч. Дзьве пары гулялі, ішлі. Будзе пароj = яшчэ ня позна, пасьпеем. Напару—часамі. Пара (націск на *па*) 1)—Двое чаго-колечы, 2) выпарэньне якоj-колечы жыжкі (пара з гаршка і jінш.).

ПАРАДАВАЦЦА, *у*юся, націск на -*ва*, *у*.

ПАСЬЦІВЫ. Ад чэсьць родны склон будзе сьці, адгэтуль „пасьцівы"; у староj беларускаj літаратуры толькі гэт'кія хвормы ўжываліся. Так сама ад цесьць будзе сьця, сьцю і г.д.

ПЕРАСЬЛЕДАВАЦЬ,—*у*ю, перасьледав*а*льнік, націск на -*ва*-, -*у*-.

ПРАДПРЫЕМЦА, ы—тоj, хто робе якое прадпрыемства; хворма (-прыемца) чыста беларуская. У „Аль-Кітабе" ё яшчэ „душаемца" — ангел, што забірае душу ўміраючага.

ПРАЗОР, у = маск. Провиденіе, польск. Опатржносьць.

ПРОСЬЛЕ, прысл., паказуе пасьля чаго што дзеецца: просьле Вялікадня, Каляд і да г. п.

ПРЫЛУКА, і—прыгода.

ПРЫСТОЛАК, лка—скрынка ў стале. Скрынка з боку ў нутры скрыні, куфра і да г. п. будзе звацца прыскрынак.

ПРЫСЯГА, і, націск на пры-.

ПРЫЯЦЕЛЬ, прыяцелка, націск на пры-.

ПРЫЯЦЬ,яю. Беларуская хворма гэтага слова такая, як тут напісана, г. зн. бяз *с*. Прыяць кажацца паміж jіншым у Случчыне, аб гэтым ведаем із зборніку Сержпутоўскага.

СПАДАР, СПАДАРЫНЯ, (клічны склон ад „спадар“ будзе спада́ру (націск на *-да*)—1) „пан“, „паня“, у гэтым значэньню ўжываюцца менаваныя словы часта ў старој беларускај літаратуры, паміж јіншым, у Повесьці аб Сівіле, Буркалабаўскім летапісцу; 2) Гасподзь, „Пан“,—у гэтым значэньню слова „спадар“ ужыта колькі разоў у сьвятој кнізе беларускіх мусульман „Аль-Кітабе“: Спадару Божа мој... Божа Спадару. Слова „пан“ можна ўжываць толькі дзеля азначэньня вялікага землясобсьніка. Аднакарэнныя слову „спадар“ ёсьць а) гаспадар — 1) собсьнік гаспадаркі, 2) валадар гаспадарства (гасударства), г. зн. цэсар, кароль, вялікі князь, празыдэнт; б) гаспадыня; в) гаспода альбо аспода — кватэра; г) гасподнік(іца) альбо асподнік (-іца)—хто ня мае свае хаты, а најмае асподу. Ад „аспода“ дзеля абазначэньня „готэлю“ „трэ“ было-б утварыці слова „асподня“.

СПАБЫЦЬ,-ца — пазбавіць,-ца, астацца без чаго.

СПАДМАН, у—спакуса (маск. соблазн). Сама нехарошая, харошага спадману (з нар. песьні), Іванчык—дзявоцкі спадманчык (з нар. песьні).

СТАЦЬЦЯВЫ, ога—праведзены пад простым кутом да ліні горызантальнај; стоцьны—зьвешаны проста зьверху ўніз.

СТВАРЭНЕЦ,-нца. Апрача ніякага роду „стварэньне“, ёсьць яшчэ (ладне ў „Аль-Кітабе“) стварэнец, мус. р., дык можа быць і жан. — стварэнка.

СУМЛЯВАЦЦА, аюся—ня быць пэўным у чым, адгэтуль сумлеў, сумлевак, бяссумлеву, сумлеўны. Некаторыя абмыльна пішуць „сумліў“ (з *і*), гэта перакручана паводле ўкрајінскага „сумнів“.

СУПАР, а, супарка, і—јідучы(ая) „навыперадкі" ў якіх любя справах (—маск. соперник), далеј маем с у п а р с т в а ј с у п а р а в а ц ь.

СЫНОВЕЦ, ўца — сын братаў, дачка братава будзе „д а ч ч а н к а"; пачута ад людзёў з Горадзеншчыны.

СЬЦІЖАДОБА, ы—жаданьне сьці, славы.

СЬЦІЛЮБЫ—хто гоніцца за сьцёј, славај.

СЬЦЯГ, у 1) штандар, флаг, 2) рад. С ь ц я г д а м о ў.

ТРАХА, п р ы с л.,—блізу што. Т р а х а ў с ю с е н а ж а ц ь с к а с і л і. Чута каля Крэва (Ашмян. п.) і Вішнева (Валож. п.). націск на канцы.

ТЭ—скарочанае ад т а б е (давальны склон).

УКЛЯКНУЦЬ-ну—стаць на калені, п а к л я к н у ц ь—пастаць на калені. А в ё с п а к л я к; чута ў Арлянятах, Ашм. п.

УВЕЛЬКІ, прысл., кажацца ў Магілеўшчыне,— велічынёј, падобна як у ш ы р к і ј у д а ў ж к і. С а б а к а ў в е л ь к і з в а ў к а.

УДУМ—у галаву. П р ы ј ш л о м н е ў д у м.

УЖЭ, гэтак казаць зусім добра пабеларуску, навет ляпеј як у ж о.

ХОДАНЬНЕ, я—долькі, барацьба.

ХРЫСЬЦЯНСТВА, ХРЫСЬЦЯНІН, заўсёды ўжываецца бяз *і* па ц.

ЯК ГА, прысл.—вельмі борзда, у мамэнт; крыху меншаю барзьдзіню абазначае я к с т о ј;

ЯК МАГА—як могучы. Падобную хворму маюць выражэньні: як х а ц я—як хочаш, я к і л ю б я—абы акі, які любіш, які балеј падабаецца:

---

ј = й, јі = і = йі.

*Н* а ц і с к у некаторых словах паказаны курсывымі літарамі.